# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

25 ЛІПЕНЯ 2003 г. № 30/4216




***Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі КУПАЛЫ сёлетні сезон завяршыў прэм'ерай спектакля "Каханне у стылі Барока"***

Працяг тэмы на стар. **10-11**

# КУПАЛАЎЦЫ закрылі сезон *прэм'ерай*



*Засл. артыст РБ Ул. РАГАЎЦОЎ у ролі Шумыцкага; сцэна са спектакля.*
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

# КОЛА ДЗЁН

**Не за гарамі жнівень... Якраз апошнімі днямі стаіць добрае надвор'е, якое, трэба спадзявацца, паспрыяе нам і ў гэтым годзе сабраць нядрэнны ўраджай.**

## *РЭЙТЫНГ ТЫДНЯ*

Прадстаўнік ААН у Беларусі зрабіў прэзентацыю рускага перакладу Даклада аб развіцці чалавека за 2003 год. Згодна з рэйтынгам, які прыводзіцца ў дакладзе, наша краіна па ўзроўні развіцця чалавечага патэнцыялу займае 53 месца сярод 175 краін свет. Нашым бліжэйшым суседам у ім з'яўляецца Расія, якая займае 63 месца. Далей ідзе Украіна — 75 месца, Казахстан — 76, Туркменістан — 87, Грузія — 88, Азербайджан — 90, Арменія — 100, Узбекістан — 101, Кыргызстан — 102, Малдова — 108 і Таджыкістан — 113. Першае ж месца ў рэйтынгу ўзроўню развіцця чалавечага патэнцыялу займае Нарвегія, апошняе — Сьера-Леоне.

## *СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны дэкрэт "Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці". Дзякуючы дэкрэту істотна скарочана колькасць ліцэнзуемых відаў дзейнасці. Такіх відаў раней было 165, пры гэтым існавала каля 3 тысяч так званых падвідаў — 487 (у Расіі ліцэнзуецца 120 відаў дзейнасці, па Украіне — 64; у Казахстане — 48; у Літве — 36.

## *ПРАГНОЗ ТЫДНЯ*

На сённяшні дзень на Зямлі жыве 6,3 мільярда чалавек, з якіх 1, 2 мільярда — у прамыслова развітых краінах і 5,1 мільярда — у краінах, якія сталі на шлях развіцця. Прагназуецца, што да 2050 года колькасць насельніцтва Азіі, у якой і цяпер людзі жывуць шчыльна, павялічыцца на 1,5 мільярда, а афрыканцаў стане больш на 1 мільярд. У Еўропе ж чакаецца скарачэнне колькасці насельніцтва. А вось насельніцтва Цэнтральнай Афрыкі, у якой цяпер жыве 104 мільёны чалавек, да 2050 года павялічыцца ў тры разы і складзе недзе 350 мільёнаў.

## *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

У першым паўгоддзі на адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі паступіла 13480 зваротаў грамадзян. Па колькасці зваротаў лідзіруе сталіца — 3347. З Брэсцкай вобласці паступіла 1438 зваротаў, з Віцебскай — 1485, з Гомельскай — 2053, з Гродзенскай — 961, з Мінскай — 1897, з Магілёўскай — 1409. На працягу шасці месяцаў да беларускага лідэра звярнуліся 890 замежных грамадзян. Тэматыка зваротаў, якія паступілі, датычыцца розных сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных пытанняў,

## *СІТУАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь прыняла распараджэнне, згодна з якім з пачатку ліпеня ў эфіры кожнай радыёстанцыі, якая вядзе вяшчанне ў Беларусі, павінна быць не менш за 50 працэнтаў прадукцыі ўласнай вытворчасці і беларускай музыкі. Прайшоў амаль месяц, але, мяркуючы па некаторых радыёстанцыях, то не ўсе выконваюць распараджэнне, якое тычыцца менавіта іх. Варта напомніць?

## *СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ*

Паводле інфармацыі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, па выніках мая сярэдняя зарплата па нашай краіне складала 241,9 тыс. рублёў. Найбольшым гэты паказчык быў у сталіцы — 322,7 тыс. Сярэднія заробкі ў Мінскай вобласці былі — 245,1 тыс., у Гомельскай — 230,3 тыс., Віцебскай — 219,1 тыс., Гродзенскай — 215,1 тыс., Магілёўскай — 211,4 тыс., а ў Брэсцкай — 209,5 тыс. рублёў. Самыя вялікія сярэднія заробкі былі ў супрацоўнікаў банкаў — 455,6 тыс. рублёў, а самыя нізкія ў сферы адукацыі — 213,7 тыс. рублёў, культуры і мастацтва — 197,4 тыс., сацыяльнага забеспячэння — 155,8 тыс. рублёў.

## *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

Згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь намінальны кошт аднаго чэка ўстаноўлены ў памеры 3600 рублёў (да гэтага ён складаў 3300 рублёў). Да таго ж тэрмін абарачэння чэкаў "Маёмасць" падоўжаны да 31 снежня 2003 года.

## *ЦЭНЫ ТЫДНЯ*

На жаль, у гэтым годзе хоць і красавалі нашы сады, але ўраджай выдаўся зусім нязначным. І ўсё ж нарыхтоўшчыкі і сёлета займаюцца закупкамі садавіны і гародніны. У параўнанні з леташнімі цэны павялічыліся ў 1,5-3 разы. Калі летась агуркі ад насельніцтва прымалі па 270-300 рублёў за кілаграм, дык сёлета нарыхтоўшчыкі даюць 400-500 рублёў. Чырвоныя парэчкі прымаюцца за 1000 рублёў (было да 500 руб.). А закупачныя цэны на цыбулю ў сёлетнім нарыхтоўчым сезоне ў 2,5 разы большыя, чым леташнія, а на буракі і моркву — у 3 разы...



**ПАДЗЕЯ**

# ВІЦЕБСК — І САЛЯРЦІНСКІ

Знаўца музыкі, гісторык літаратуры, філосаф і паліглот, лектар і публіцыст... Гэта ён, Іван Салярцінскі, Чалавек эпохі віцебскага рэнесансу 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Больш за "Славянскі базар" жыве ў Віцебску Міжнародны фестываль камернай музыкі яго імя, заснаваны па ініцыятыве мастацкага кіраўніка беларускага ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Уладзіміра Байдава, дарэчы, віцябляніна. І падчас фестывалю абавязкова наладжваюцца навукова-папулярныя чытанні, удзельнікі якіх дадаюць усё новыя штрыхі да дзівоснага феномена — прыгожага загадкавага горада на Дзвіне, ауру якога стваралі Бахцін, Шагал і Малевіч, Малько і Салярцінскі...

Сусветна вядомы дырыжор Мікалай Малько зрабіў вялікі ўплыў на фарміраванне музычнага светапогляду дапытлівага юнага віцябляніна.Крыху пазней, пераехаўшы ў Пецярбург, Іван Салярцінскі пазнаёміцца з маладым Дзмітрыем Шастаковічам і да канца свайго нядоўгага жыцця застанецца лепшым сябрам і творчым дарадцам геніяльнага кампазітара.

Некалькі гадоў таму імя І.Салярцінскага было нададзена Віцебскаму музычнаму вучылішчу, у зале якога, дарэчы, праходзяць і многія канцэрты Міжнароднага фестывалю камернай музыкі. Падзея тая шчыра ўзрушыла Дзмітрыя Салярцінскага (сына Івана Іванавіча) — вядомага дзеяча сучаснага філарманічнага жыцця Санкт-Пецярбурга і рупнага ўдзельніка віцебскіх фэстаў. А падчас сёлетняга "Славянскага базара" Салярцінскі-малодшы перажыў новае прыемнае ўзрушэнне: адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка яго знакамітаму бацьку паблізу музычнага вучылішча, якое, вядома, носіць яго імя. Аўтар помніка — віцебскі скульптар В.Магучы. Падзея гэтая амаль супала з юбілейнай нагодай: у снежні 2002-га адзначалася стагоддзе з дня нараджэння І.Салярцінскага, што надавала асабліва ўрачысты характар чарговаму фестывалю, заснаванаму ў гонар вялікага земляка...

**С.Б.**

**Фота Г. ЖЫНКОВА**

# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

## НАГАДВАЕ:
## НА НАШЫ ВЫДАННІ ПАДПІСАЦЦА НІКОЛІ НЕ ПОЗНА!

Шаноўныя чытачы! Закончылася падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. Але на выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Кошты засталіся амаль тыя ж, што і былі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 5 месяцаў — 12500 руб.**
Ведамасная (індэкс — 63857)
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 5 месяцаў — 20000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 5 месяцаў — 12500 руб.**
Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 5 месяцаў — 17500 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 5 месяцаў — 12500 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 5 месяцаў — 17500 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 5 месяцаў — 12500 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00238)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 5 месяцаў — 17500 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 5 месяцаў — 13000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 5 месяцаў — 19000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 5 месяцаў — 12500 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 5 месяцаў — 17500 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

# Музыкі над горадам

























Пакуль доўжыцца фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", гэты горад, здаецца, ператвараецца ў вялізны захмялелы карабель: бесклапотны, гуллівы, з мноствам рознакаляровых агеньчыкаў. Пад гукі музыкі, якія даносяцца з усемагчымых кафэ пад адкрытым небам і, канечне, галоўнай пляцоўкі фестывалю – Летняга амфітэатра, людзі ядуць, п'юць, весяляцца, мо забываючы на гэтыя імгненні пра ўсе свае жыццёвыя клопаты. І плыве гэты карабель па рацэ Дзвіне, якую далёкія продкі сённяшніх віцяблян называлі Дзевінай ракой, бо пакланяліся яны паганскай Дзеве Сонца...

Цяпер жа жыхары Віцебска (а таксама госці гэтага горада, многія з якіх спецыяльна прыязджаюць з іншых абласцей Беларусі на фестываль) шчыра пакланяюцца ўсемагчымым эстрадным «зоркам» (часцяком з «фанернымі» крыламі за плячыма). Бо напярэдадні святочнага адкрыцця "Славянскага базару ў Віцебску" публіку "разагравала" нечаканая "фанаграмшчыца"... Сафія Ратару. У гэтым сэнсе асабіста мяне расчаравала выступленне Дзяржаўнага акадэмічнага камернага «Вівальдзі-аркестра» пад кіраўніцтвам С. Бязроднай (Расія), музыкі якога сыгралі пад фанаграму папуры на тэмы класічных музычных твораў (салістка аркестра С. Бязродная працягвала «пераканаўча» іграць на скрыпцы, нават нягледзячы на парваную струну). Таму так даспадобы былі любыя «жывыя» канцэрты (а на вуліцах горада было шмат цікавых музыкаў). Бо, калі я не памыляюся, з ўсіх поп і рок-зорак фестывалю «жыўцом» праспяваў толькі навамодны піцерскі гурт «Начныя снайперы», астатнія ж цешылі публіку пад фанаграму «мінус» (а гэта А. Буйноў, Л. Доліна, М. Баскаў, Б. Маісееў і многія іншыя) ці страшэнную «фанеру» (як, напрыклад, гурт «Бі-2»). І тут не цяжка было заўважыць як непадрыхтаваныя да «падману» гледачоў «фанаграмшчыкі» няёмка ўсміхаліся на сцэне.

Увогуле ўсемагчымыя канцэрты трэба таксама глядзець "жыўцом". Ніякая жывая трансляцыя па тэлебачанні не данясе той атмасферы, якая пануе ў гэтае імгненне ў Летнім амфітэатры, каго гледачы насамрэч вітаюць моцнымі апладысментамі, а каго, трымаючы пры гэтым дулю ў кішэні. Напрыклад, на святочным закрыцці "Славянскага базару ў Віцебску", было заўважна, што Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь, які ўпершыню браў удзел у фестывалі, гледачы сустрэлі ўсё ж такі даволі насцярожана (прызнанне ў гэтага маладога калектыву яшчэ наперадзе). А вось уладальніка Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2003", цяперашняга саліста Гомельскай філармоніі Максіма САПАЦЬКОВА (Беларусь), які зачараваў журы пранікнёным выкананнем раманса ў фінале конкурсу, а таксама пераможцу Міжнароднага музычнага дзіцячага конкурсу (на "Славянскім базары" ён ладзіўся ўпершыню) неверагодна таленавітага спевака з Румыніі НОНІ віцебская публіка вельмі палюбіла.

Таму галоўнай мэтай гала-канцэртаў майстроў мастацтваў Беларусі, Украіны, Расіі было перш-наперш зачараваць, уразіць гледачоў. Напрыклад, рэжысёр канцэртнай праграмы "Мелодыі Дняпра" Д. Мухарскі адкрыта прызнаваўся, што гала-канцэрт майстроў мастацтваў Украіны – гэта пераважна шоу з мноствам "глядацкіх" нумароў, разлічаных на публіку, здольную танчыць нават пад дажджом.

З майго гледзішча, гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, які меў назву «Зорка Мулявіна» таксама атрымаўся вельмі замілаваным, добрым відовішчам. Прынамсі, знакамітыя мулявінскія песні цудоўна прагучалі ў выкананні салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга М. Яфіміка, І. Афанасьевай, Н. Тамелы, У. Аўчарова, які на гэтым фестывалі атрымаў не толькі ІІ-ю прэмію на конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2003", але і стаў уладальнікам спецыяльнай прэміі імя У. Мулявіна. Увогуле было прыемна паслухаць вядомыя хіты ансамбля «Песняры», салісты якога выканалі таксама і зусім новыя песні, прысвечаныя ўжо памяці Песняра (на вершы Н. Гілевіча і В. Паліканінай). Чамусьці на канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі былі запрошаны папулярныя расійскія зоркі. Праўда, музычны нумар Н. Бабкінай, у якім яна спявала разам з голасам У. Мулявіна (дарэчы, нашага Песняра расійскі паэт М. Дабранраваў назваў "славянскім Макартні") падаўся даволі вынаходлівым. А вось выступленне М. Баскава, які саманадзейна "пацягнуў коўдру на сябе", было вельмі прыкра глядзець — расійскі спявак ганарліва прайшоў ля ложы, дзе сядзелі блізкія У. Мулявіна, не спыніўшыся ля іх, не падараваўшы кветак удаве. Ён выканаў свае хіты разам з ансамблем "Сябры", якія закрывалі канцэрт. Гэта было не зусім тэматычна апраўданым. Тым больш, што ў гала-канцэрт майстроў мастацтваў Расіі беларускіх спевакоў не запрасілі (а ў тэлеверсіі закрыцця "Славянскага базару ў Віцебску" супрацоўнікі РТР нават выразалі выступленне нашага М. Сапацькова). Вядома, большасць віцебскай публікі прагнула ўбачыць славутых поп і рок-зорак на гала-канцэрце майстроў мастацтваў Расіі, які меў пацыфісцкую назву "Жыццё без стрэлу на зямлі". З усіх расійскіх выканаўцаў, што сёлета прыехалі ў Віцебск, асабіста мне спадабаўся А. Буйноў, які вельмі добра працаваў на сцэне, падараваўшы гледачам добры настрой (нават прачытаўшы ім верш пра марнасць славы ды жыццёвай мітусні)...

На святочным закрыцці XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" на сцэне панаваў "Неверагодна дзіўны цырк" М. Чаўнакова – непаўторныя аблічча з шагалаўскіх карцін, на якіх і цыркачы, і музыкі свабодна луналі над горадам.

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА

# НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ

Кніга "Там, дзе вежы Сафіі", што толькі выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" адкрывае серыю "Беларусь літаратурная" і прысвечана літаратарам, лёс якіх так або інакш звязаны са старажытным Полацкам. Гэта своеасаблівы падарунак выдавецтва да Дня беларускага пісьменства, які сёлета адбудзецца ў горадзе над Дзвіной. Пра выданне пойдзе гаворка ў аўторак, 29 ліпеня ў аўтарскай праграме "Брама". Пачатак перадачы як заўсёды, у 22 гадзіны 30 хвілін.

У звычайны час выходзяць і іншыя аўтарскія праграмы — "Авансцэны", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне".

Як заўсёды шмат цікавай інфармацыі чакае слухачоў у "Літаратурным праспекце" ў суботу, у 10.45.

Шмат цікавага прапануе канал "Культура". Працягваецца чытанне ў прамым эфіры рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды". У аўторак — праграма Галіны Шаблінскай "Гаспода" і іншыя літаратурныя праекты. Пачатак у 14 гадзін 10 хвілін.

У суботу — паўтор праграм "Брама", "Сентыментальнае паляванне". У нядзелю — 19 гадзін — "З фондаў радыё".

Н. К.

# З ЖЫЦЦЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ШАРКОЎШЧЫНЫ

На Шаркоўшчыне многа людзей, якія захапляюцца паэзіяй, пішуць вершы самі. Зборнік паэзіі "Шаркоўшчынскаму краю", выдадзены "Беларускім кнігазборам" у мінулым годзе, — пацвярджэнне гэтаму. Аўтары зборніка — сябры мясцовага народнага літаратурна-музычнага аб'яднання "Світанак". Таму ў кнізе ёсць песні з тэкстамі і нотамі. Вершы, надрукаваныя ў зборніку, прысвечаны роднай прыродзе, людзям свайго краю, іх марам і спадзяванням. Сярод паэтаў, вершы якіх увайшлі ў кнігу, варта назваць Таццяну Еўдакову, Міледзія Кукуця, Людмілу Лабачэўскую, Віктара Лагуна, Надзею Паляк, заўчасна адышоўшага Міхася Райчонка, Галіну Сікору, Кацярыну Сосна.

Цікава, што песні на словы К. Сосна і музыку М. Яцкова ("Сон", "Ой, масточак панад рэчкай", "Журавіны") напісаны ў разліку на розны тэмп выканання, адрозніваюцца сваёй эмацыянальнай афарбоўкай. Адно з іх выпучаецца сярод іншых лірычнай усхваляванасцю: "Ой, масточак па-над рэчкай // Пракладу з варажбітавых траў, // Асвячу шлях я свечкай, // Каб мяне ты заўжды сустракаў". Біяграфіі аўтараў вершаў самыя розныя: усе гэтыя людзі або працавалі як рабочыя, або атрымалі вышэйшую адукацыю. Ва ўсіх іх, як кажуць, захоўваецца Божая іскрынка. Яны часта выступалі ў раённым і абласным друку, на сваёй "малой" радзіме гэта вядомыя асобы.




Магчыма, вершы, якія ўвайшлі ў кнігу, і слабаватыя паводле літаратурных якасцей, ды ўсё ж... замілаванасць родным краем і любоў да яго — гэта не самыя горшыя пачуцці, што могуць натхняць чалавека. А значыць, і лірыка, што выходзіць з-пад пяра ўсіх гэтых пісьменнікаў-пачаткоўцаў, можа прывабіць і зацікавіць, прынамсі, іх землякоў.

С. Я.

Хведар ЖЫЧКА

ЗГАДКІ

# БЫЛО І ТАКОЕ



## «І ВЕЛІЧ МУЖНАСЦІ ЯГО...»

Яшчэ з далёкіх школьных гадоў я прывык лічыць яго нашым класікам, амаль народным паэтам: творы Пятра Глебкі друкаваліся ў падручніках і газетах. У пасляваенны час Пятро Фёдаравіч больш праславіўся як вучоны — мовавед і фалькларыст. Пісаў і вершы, паэмы, лібрэта опер, вершаваныя драмы, навуковыя артыкулы.



З ягоных вершаў мне запомніліся "Наш сцяг", "Спаць малога палажыла...", "Галасы дарог", "Пасланец", "Аповесць пра каня", і асабліва "Пра кнігі" — прысвечаны жонцы, якая засталася на акупаванай фашыстамі тэрыторыі і тужыць па ім, чытае калісьці пісаныя ім вершы:

*Я там пісаў пра снег, адлігу,*
*пра ўсё, што больш не напішу.*
*А што ж, калі б цяпер, як кнігу,*
*раскрыла ты маю душу?*

*У ёй запісана ў паходах*
*крывёй дасведчання майго*
*і гора нашага народа*
*і веліч мужнасці яго.*

Але ўсё гэта — літаратурныя здабыткі, мужнасць паэтычная. Праз колькі часу я стаў сведкам грамадзянскай мужнасці Пятра Фёдаравіча. У выдавецтве "Беларусь", як кажуць, "застапорыўся" рукапіс рэабілітаванага паэта Язэпа Пушчы. Выдаўцы ў разгубленасці: што рабіць? Чалавек адгрукаў дваццаць гадоў у ссылцы, а нічаму не навучыўся — і ў новых творах апявае патрыярхальную вёску з аўсянай саломай, лясныя верасы, балотныя чароты. Бяда дый годзе! Няма паэта, — разводзяць рукамі. "А яго і не было", — падтакваюць зласліўцы. Ніхто не браўся рэдагаваць рукапіс, ніхто не згаджаўся напісаць прадмову...

І тады на выручку прыйшоў акадэмік Пятро Фёдаравіч Глебка.

Ён уважліва прачытаў рукапіс, пагутарыў з паэтам, папрасіў яго напісаць пра ўсе яго блуканні і роздумы, пошукі і знаходкі.

— Прадмову я напісаў, — пазваніў ён галоўнаму рэдактару выдавецтва І. Д. Казеку. — Зараз прынясу.

На гутарку з акадэмікам галоўны запрасіў і мяне — будучага рэдактара кнігі, каб ведаў, што пускаць, чаго не пускаць.

Вось тады я і ўбачыў сапраўднага Глебку — выдатнага вучонага, сумленнага крытыка, мужнага чалавека. І шчырага сябра-пісьменніка ў адносінах да свайго сабрата па пяры.

Я не стану прыводзіць па памяці той гаворкі (мінула ж амаль паўстагоддзя, а стэнаграмы не рабілі), прывяду толькі некалькі вытрымак з прадмовы Пятра Глебкі да кнігі Язэпа Пушчы "Вершы і паэмы" (1960):

"...Я. Пушча выкарыстоўваў народную рытміку, інтанацыю, метафару і іншыя выяўленчыя сродкі, творча перапрацоўваючы іх",

"Нават тады, калі ўслед за С. Ясеніным, які назваў сябе "последним поэтом деревни", Я. Пушча таксама гаварыў пра сябе, што "гэтак грае апошні музыка ля вясковых паломаных весніц", у яго творчасці не было яшчэ таго расчаравання і бязвыхаднасці, якімі адзначаны многія творы рускага паэта".

"Новыя творы Я. Пушчы, захоўваючы ў сваёй аснове ўласцівыя паэту рысы творчай індывідуальнасці і паэтыкі, выразна адрозніваюцца ад ранейшых як сваёй тэматыкай, так і настроямі".

"...улюбёны паэтам беларускі пейзаж... у новых вершах Я. Пушчы значна ажыў і загаманіў людскімі галасамі... ...у цэнтры ўвагі паэта стаў чалавек працы, няхай яшчэ не заўсёды паўнакроўны, але актыўны, дзейсны".

"...паэма "Людвіся" — твор аб мужнасці савецкай дзяўчыны, аб шырыні яе шчырага сэрца".

...у паэме "Бор шуміць"... вобраз старога Лукаша выпісаны рэльефна і пластычна. Эпічна гучыць поўная мудрасці і сілы яго прамова, у якой ён заклікае народ на змаганне з гітлераўскімі захопнікамі".

І галоўнае: "...новыя паэмы Я. Пушчы, як і яго цяперашнія лірычныя вершы, з'яўляюцца значным крокам у далейшым творчым развіцці паэта".

Была выратавана не толькі кніга — выратавана добрае імя таленавітага беларускага паэта.

*"Не можа быць нічога даражэй..."*

Сапраўды, для тых, што вярнуліся з пекла вайны, не было нічога даражэйшага на свеце за мір і спакой, за вясновы росквіт вызваленай зямлі. Пра гэта і пісалі ў сваіх, няхай яшчэ і недасканалых, але шчырых вершах беларускія маладыя паэты. І сярод іх зычным голасам вызначаўся Алесь Астапенка. Яго першы зборнік вершаў "Выпрабаванне" (1947) прыцягнуў увагу моднага тады крытыка Уладзіміра Агіевіча, якому спадабаліся ўзнёслыя радкі паэта пра савецкага воіна, які

*...засланяў грудзямі Сталінград,*
*ад Волгі немца гнаў аж да Карпат...*

і дужа не спадабаліся "традыцыйныя літаратурныя штампы" накшталт:

*Мой родны край: шумлівыя*
*прадвесні,*
*Радзіма сумных і вясёлых песень,*
*Лясная і вішнёвая старонка*
*Са славай маладой ды звонкай;*
*Азёры сінія ў лозах ніцых,*
*Істужкі рэк, што льюцца серабром,*
*Крыніцы светлыя, зямлі маёй*
*жывіца, —*
*Усё цяпер прыходзіць толькі сном.*

"Пісаць так у пачатку 40-х год пра савецкую Беларусь, аблічча якой за гады совецкай улады карэнным чынам змянілася, па меншай меры дзіўна", — робіць заключэнне рэцэнзент. (Часопіс "Беларусь", № 12 за 1947 г.).

(Цікава, ці знойдзецца сёння, у новым тысячагоддзі, хоць адзін сумленны даследчык, які разбярэцца, куды скіроўвалі творчасць маладых паэтаў "бязгрэшныя крытыкі" ў тыя застойныя гады?)

Летам 1943 года ў жорсткім баі на Курскай дузе Алесь Астапенка быў цяжка паранены і кантужаны. Франтавыя ўрачы ледзь выратавалі яму жыццё і, крыху ачуняўшы, паэт зноў уладкаваўся на працу ў беларускую рэдакцыю Усесаюзнага радыёкамітэта. Пасля вызвалення Беларусі вярнуўся ў Мінск, працаваў у рэдакцыях газеты "Чырвоная змена" і часопіса "Бярозка".

Рэдакцыя "Бярозкі" размяшчалася ў будынку ЦК ЛКСМБ, пры ўваходзе ў які дзяжурны міліцыянер правяраў дакументы. А ў Алеся Кірылавіча ніяк не праходзілі вынікі кантузіі і ранення, — у яго ад хвалявання не толькі дрыжалі рукі, але і калацілася ўсё цела. Вось паставыя і данеслі свайму начальству, што журналіст Астапенка кожны дзень прыходзіць на працу ў нецвярозым стане... Давялося сябрам абараняць былога франтавіка, даказваць яго "маральную чысціню", а пасля — дапамагаць дабівацца прызначэння заслужанай крывёй пенсіі...

Я быў добра знаёмы з Алесем Астапенкам, ведаў, які ён сумленны і працавіты чалавек, колькі намаганняў прыкладае, каб ніхто не заўважыў ягонай непаўнацэннасці. Ён многа пісаў і свайго, і перакладаў, пераважна з рускай мовы. Дастаткова сказаць, што толькі для анталогіі "Руская савецкая паэзія" (1953) ён пераклаў на беларускую мову вершы С. Маршака, А. Багрыцкага, М. Святлова, А. Жарава, І. Сельвінскага, С. Міхалкова, З. Аляксандравай, А. Яшына, С. Арлова.

Мне давялося рэдагаваць апошні прыжыццёвы зборнік вершаў Алеся Астапенкі "Сэрца спявае" (1960).

Памёр А. К. Астапенка летам 1970 г.

## АЎТАР ГІМНА

На бланку Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларускай ССР машынкай надрукавана: Мінск 2 ліпеня 1953 г.

**Магілёў, Карабанаўская, 48.**
**тав. Жычка Фёдар Дзімітравіч.**

Ці няма ў вас жадання атрымаць вышэйшую літаратурную адукацыю?

Да нас звярнуўся Інстытут кінематаграфіі (сцэнарнае аддзяленне) і Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве (звычайнае і завочнае аддзяленне) з просьбай параіць ім маладых здольных пісьменнікаў. Умовы прыёму і стыпендыі там звычайныя для ўсіх ВНУ, а вучоба з творчым ухілам, ды і друкавацца ж будзе можна.

У выпадку станоўчага адказу, прышлем умовы.

**З прывітаннем М. Клімковіч.**

І другі ліст на такім жа бланку: ад 8 ліпеня 1953 г.:

Пісьмо Ваша атрымаў. Заўтра стаўлю на Прэзідыум пытанне аб дачы рэкамендацыіі. Думаю, што Прэзідыум такую згоду дасць. Пакуль жа рыхтуйце наступныя дакументы:

і пералік усіх даведак, атэстатаў, папярэджанні, што "заява прымаецца да 31 ліпеня", "экзамены пачнуцца з 1-га па 20-е жніўня", "плата за навучання — 400 руб. у год", "даецца інтэрнат". Ну і друкаваць Вашы творы мы тут, у Беларусі, будзем ахвотна, улічваючы, што Вам трэба будуць да стыпендыі грошы".

Не так ужо лёгка было "вырваць" тыя даведкі з ваенкамата і бальніцы (аб стане здароўя), зрабіць тры фотакарткі, аддрукаваць на машынцы свае творы...

Зрабіў усё, а Пастановы Прэзідыума — няма. Пазваніў, кажуць: паслалі ў Маскву ў інстытут.

Усё сабраўшы, пазваніў рэдактару газеты "Чырвоная змена", каб паведаміць, што еду ў Маскву. Рэдактара А. Асіпенкі няма, у адпачынку, яго намеснік накінуўся: не дазваляю, маўляў, яго рэдактар папярэдзіў, каб нікога ў водпуск не пускаў.

— Дык я ж не ў водпуск, а на экзамены.

— Мяне гэта не цікавіць, куды ты паедзеш, — кажа намеснік рэдактара Леанід Цітавіч Байдакоў.

З надзеяй, што накіраванне ўжо ў інстытуце, я паехаў у Маскву. А там — здзіўляюцца: ніякіх рэкамендацый з Беларусі не атрымалі, экзамены ўжо ідуць згодна зацверджанага прыёмнай камісіяй спісу. Суцешылі: "Нічога страшнага няма, паступіце на наступны год..."



А мне вяртацца назад ні з чым... Гэта пагражала крахам: і з працы выганяць, і камсамольскі білет пакладу. Ледзь упрасіў жанчын з прыёмнай камісіі ўключыць у дадатковы спіс для паступлення на завочнае аддзяленне, дзе былі вакантныя месцы. Здаў усе экзамены.

А ў Магілёве — перапалох: кожны дзень тэлеграма: тэрмінова прыязджай у рэдакцыю.

— Што ты там такое натварыў? — здзіўляецца гаспадыня (я жыў на прыватнай кватэры).

Еду ў Мінск. Рэдактар Аляксандр Харытонавіч Асіпенка не прымае, гаварыць са мной не хоча:

— Ідзі ў ЦК камсамола растлумач, чаму ты сарваў кампанію па асвятленні ўборкі ўраджаю?

"Сарваў кампанію..." Трэба ж выдумаць такое! Падумаеш, тыдзень не было інфармацый з Магілёўскай вобласці... Вунь у Гомельскай і Брэсцкай абласцях наогул няма ўласных карэспандэнтаў, і ніхто гэтага не заўважае.

Я плюнуў на ўсё і падаў заяву аб звальненні...

Вось пры якіх абставінах звёў мяне лёс з Міхаілам Мікалаевічам Клімковічам. Гэта быў таленавіты чалавек: пісаў вершы, прозу, драматургічныя і крытычныя творы.

У мяне захаваліся толькі два лісты ад Клімковіча. Іх было значна больш. І сустрэч з гэтым разумным і клапатлівым старэйшым таварышам было многа. Працуючы ў апараце Саюза пісьменнікаў, ён вёў кансультацыі, збіраў матэрыялы для зборнікаў "На сонечных сцежках", рассылаў запрашэнні на розныя сходы, пасяджэнні і нарады.

Як цяпер помню яго лысую, як бубен, галаву, схіленую над масіўным сталом, на якім заўсёды ляжаў бляшаны карабок з цукеркамі-ледзянцамі (Міхаіл Мікалаевіч быў ужо хворы, кідаў курыць). Ён усіх нас, пачынаючых, ведаў, знаходзіў час пагутарыць з кожным, нешта параіць, падказаць. Ён жа мне параіў, як выдаць пераклады вершаў і паэм Лесі Украінкі, якія зрабіў я яшчэ ў час вайсковай службы на Балтыцы.

Вялікім поспехам карысталася песня Нестара Сакалоўскага на словы Міхася Клімковіча "Мы — беларусы", якая потым стала Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР.

## У ПОШУКАХ АДЭКВАТНАСЦІ

Нас зблізіла паэзія Лесі Украінкі. Калі Дзяржаўнае выдавецтва БССР даручыла мне скласці аднатомнік твораў вялікай украінскай паэтэсы, я адразу ўспомніў паэтычныя пераклады Эдзі Агняцвет, якія публікаваліся ў перыядычным друку. Пазваніў Эдзі Сямёнаўне, ці згодна яна ўключыць свае пераклады ў агульную кнігу.

— Згодна, згодна! — абрадавалася яна. — Гэта ж цудоўна!

Мы былі ўжо крыху знаёмыя: сустракаліся і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў рэдакцыях піянерскіх газет. І хутка прыйшлі да ўзаемаразумення, тым больш, што пераклады Эдзі Агняцвет былі ўжо апрабаваны і ў друку, і па радыё. Яна прынесла ўсё, што было ёю перакладзена і паабяцала перакласці яшчэ некалькі вершаў.

Яшчэ бліжэй мы пазнаёміліся пры рэдагаванні яе перакладу кніжкі французскага паэта П'ера Жана Беранжэ "Выбраныя песні". Французскай мовы я не вывучаў, творчасць Беранжэ ведаў з рускіх перакладаў В. Курачкіна і В. Міхайлава. Але ж перакладчыку трэба было дабівацца не толькі адэкватнасці зместу кожнага верша, але і адэкватнасці гучання, замяняць французскую дасціпнасць раўназначнай беларускамоўнай дасціпнасцю. Мы разам выпрацоўвалі розныя варыянты пры перакладзе рэфрэнаў і, відаць, нечага дабіліся, бо кніга атрымала высокую ацэнку і чытачоў, і крытыкаў.

У той час пачала ўжо адцжываць заганная практыка перакладу паэзіі з любых замежных моў пры дапамозе падрадкоўніка. Вярнуліся з "аддаленных краёў" перакладчыкі, якія ведалі еўрапейскія мовы, перакладалі непасрэдна з арыгіналаў: Юрка Гаўрук, Уладзімір Дубоўка, Алесь Звонак, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Пятро Бітэль, Сямён Дорскі. Пачалі грунтоўна вывучаць замежныя мовы і студэнты беларускіх універсітэтаў.

Прыкладам самастойнага вывучэння французскай мовы стала Эдзі Агняцвет. У яе перакладзе друкаваліся творы Апалінэра, Элюара, Карыма, Экзюперы і інш.

Была ў Эдзі Сямёнаўны яшчэ адна любоў — да ўзбекскай паэзіі. У час вайны яна жыла ў Ташкенце, часта сустракалася са многімі ўзбекскімі пісьменнікамі. Не ведаю, наколькі яна валодала ўзбекскай мовай, але ў яе перакладзе хораша гучалі вершы многіх паэтаў, асабліва паэтэсы Зульфіі, з якой яна сябравала.

У час, калі Мікіта Хрушчоў пачаў развенчваць культ Сталіна, паплылі плёткі і ў адрас Эдзі Агняцвет, якая ў гады рэпрэсій была сакратаром камсамольскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР і нібыта пісала даносы на сяброў-пісьменнікаў. Былі нават спробы вынесці гэтыя плёткі на ўсеагульнае абмеркаванне. Эдзі Сямёнаўна мужна пераносіла нападкі, я не чуў, каб яна ўступала ў спрэчку, сваю праваату даказвала працай — пісала і свае творы і перакладала творы любімых паэтаў.

Летам 1979 года я з задавальненнем прыступіў да рэдагавання кніжкі паэзіі Поля Элюара "З табой", якую пераклала Эдзі Агняцвет. Кніга выйшла ў свет у 1980 годзе ў адной з самых прэстыжных серый — "Паэзія народаў свету".

Эдзі Сямёнаўна Агняцвет была працавітая, улюбёная ў справу пісьменніца, дакладная і верная свайму слову, не мела звычкі прымушаць кагосьці чакаць. Вельмі любіла рабіць людзям прыемнае: віншаваць са святамі, дарыць падарункі. У мяне захаваліся многія яе віншавальныя паштоўкі, прывезеныя ці прысланыя з Украіны і Прыбалтыкі блакноты, кнігі, альбомы, значкі.

## ПЕРАКЛАДЧЫЦА «КРАМОЛЬНАГА» РАМАНА

З высылкі ў Мінск Ядвіга Іосіфаўна Бяганская вярнулася недзе ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў. Яна ўладкавалася на працу старшым рэдактарам перадач для дзяцей і юнацтва на Беларускім радыё. Часта прыходзіла ў будынак ЦК ЛКСМБ, дзе размяшчаліся рэдакцыі дзіцячых газет і часопісаў, прыносіла свае апавяданні, прасіла іх добра вычытаць, бо сама яна яшчэ не паспела прывыкнуць да новага беларускага правапісу. Ды і школьнае жыццё яна слаба ведала, пісала больш пра паўночную экзотыку. Такія творы ішлі зялёнай вуліцай, а калі яна кранулася яшчэ і ленінскай тэматыкі ("Над ракой Шушай"), дык і зусім праславілася, стала "майстрам дзіцячай літаратуры".

Ядвіга Іосіфаўна была лагоднай, дысцыплінаванай жанчынай, яна рэгулярна наведвала пасяджэнні секцыі дзіцячай літаратуры СП, дзе я лічыўся сакратаром, адзначаў яўкі, пісаў справаздачныя інфармацыі.

Неяк выпадкова я даведаўся, што Ядвіга Іосіфаўна калісьці пераклала на беларускую мову раман польскага пісьменніка Бруна Ясенскага "Палю Парыж", які выйшаў асобнай кнігай. Я добра ведаў тую кніжку — у страшныя дні 1937 года бацька закінуў яе на гарышча, каб не мазоліла вочы цікаўным суседзям. Спачатку раман мне здаўся сумным і нецікавым, а потым, калі я падрос, штосьці стаў разумець, захапіўся ім, многа разоў перачытваў, ведаў яго да драбніц. У час вайны было не да кніжак, і яна недзе згубілася...

Пасля смерці ўсплыло імя Бруна Ясенскага, пачалі выдаваць яго творы. Я купіў двухтомнік выбраных твораў Б. Ясенскага на рускай мове і адразу ж накінуўся на раман "Палю Парыж". Але што гэта? Героі рамана — П'ер і Жанета амаль тыя ж, што былі і ў беларускім выданні, а дзейнічаюць яны не заўсёды так, як тады: апушчаны не толькі некаторыя эпізоды, але заменены цэлыя раздзелы, "выпрамлены" сюжэт усяго рамана. Вось я і вырашыў запытацца ў Ядвігі Іосіфаўны пра прычыну гэтых разыходжанняў. З якога арыгінала яна перакладала?

— Перакладала я з польскага часопіса, назвы якога ўжо не помню. Раман выйшаў асобнай кнігай у Дзяржаўным выдавецтве БССР у 1932 годзе. Тады ж выйшла і паэма Б. Ясенскага "Слова пра Якуба Шэлю" ў перакладзе Уладзіміра Жылкі. Бруна Ясенскі жыў ужо ў Савецкім Саюзе, і мы чакалі яго прыезду ў Мінск. Але ён падарожнічаў па Сярэдняй Азіі, збіраў матэрыял для рамана "Чалавек мяняе скуру". У Мінск ён прыехаў пазней — вясной 1936 года, для ўдзелу ў рабоце ядомага Пленума Саюза пісьменнікаў СССР па паэзіі. І я сустракалася з ім, гутарыла... Але гэта было так даўно, што я не рызыкую пераказваць нашу размову... Неўзабаве мяне арыштавалі, і я трапіла на Калыму, у такія ўмовы... І Ясенскага таксама не пашкадавалі... А пісьменнік быў цікавы. Зменена, кажыце, канцоўка рамана "Палю Парыж"? Яшчэ б! Ясенскі і пісаў апеартыўна, і бясконца ўносіў карэктывы ў свае творы, падганяў іх пад зменлівыя палітычныя абставіны... Можа, за гэта і паплаціўся жыццём?..

"Жыццём і воляй у той час плацілі і без дай прычыны", — хацелася мне папраравіць Ядвігу Іосіфаўну. Але я прамаўчаў, баронячы яе ад цяжкіх успамінаў.

*НА ЗДЫМКАХ: Хведар ЖЫЧКА, г. Мір, 1956 г; у рэдакцыі часопіса "Вясёлка", злева направа: П. МАКАЛЬ, А. ПАЛЬЧЭЎСКІ, Х. ЖЫЧКА, Я. КУРТО і А. ВОЛЬСКІ, 1959 г; М. ДАНІЛЕНКА і Х. ЖЫЧКА на беразе Сожа, 1958 г; на сустрэчы з вучнямі сш № 3 Гомеля.*

**Фота з архіва Х. ЖЫЧКІ.**



**ЗАХАРАВА, 19**





# «МАЛАДОСЦЬ», № 6

Чарговы нумар часопіса "Маладосць", які выйшаў з друку і рассылаецца падпісчыкам, перш за ўсё багаты сваім зместам. У гэтым, шостым, нумары, як заўсёды, шмат паэзіі. Пад рубрыкай "Мы — маладыя" з вершамі выступаюць Валянціна Гарністава, Віка Трэнас, Вера Бурлак. Іх імёны ўжо даўно вядомы чытачам, але тым не менш у "Маладосці" таленавітыя паэтэсы друкуюцца ўпершыню. Сярэдняе пакаленне творцаў, што выйшла на паэтычную арбіту прыкладна дзесяць гадоў таму назад, прадстаўляе самабытны паэт Анатоль Дэбіш, які жыве і працуе ў горадзе Брэсце. "Прачнулася прага жыць, і тварыць" у нашага знакамітага Юрася Свіркі. Дарэчы, яму нядаўна споўнілася 70 год. Юбілейная падборка паэта, безумоўна, прынясе задавальненне і асалоду шматлікім прыхільнікам яго нага таленту.

Надзвычай разнастайная тэматычна і цікавая маладосцеўская проза шостага нумара. Алесь Наварыч, да прыкладу, друкуе заканчэнне гістарычнага рамана "Літоўскі воўк", што высока ацэнены чытачамі. З першымі апавяданнямі знаёміць падпісчыкаў малады празаік Віталь Еўмянькоў і Міхась Марозаў. "Гваздом" нумара цалкам могуць стаць неардынарныя дзённікі нядаўна памерлага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслава Адамчыка.

На старонках "свежага" нумара часопіса таксама шырока прадстаўлены аддзелы публіцыстыкі і крытыкі. Адною, дужа надзённай рубрыкай "Экалогія" аб'яднаны нарыс Ірыны Занеўскай "Балота... Дрыгва... Вяртанне да першароднасці" і невіртуальныя замалёўкі Алены Гардзей "За лясамі, за даламі...". Несумненна, увагу чытачоў прыцягнуць і хвалюючыя ўспаміны Святланы Явар пра свайго бацьку "Я — дачка Барыса Сачанкі". У гэтым жа нумары "Маладосці" Кастусь Цвірка друкуе працяг сваіх даследаванняў "Край легенд", інакш кажучы — гісторыю Беларусі паводле паданняў і легенд. Што тычыцца крытычных артыкулаў, прапанаваных Зміцерам Вішнёвым, Валерыяй Куставай, Таццянай Барысюк, то некаторыя з іх маюць яўна палемічны тон, хоць гэта ўвогуле характэрна для творчасці маладых літаратараў.

# УМЕЙ СЛУХАЦЬ

***Такой вось карыснай парадай "Умей слухаць" названа чарговая кніжачка Уладзіміра Содаля, аўтара шэрагу кніг пра волатаў беларускага слова: Я. Купалу, Ф. Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча, Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), аднаго з заснавальнікаў навучальнага тэлебачання, першага тэлечасопіса "Роднае слова",***

**Падзагаловак "Кушлянскія дыяменты-жартоўкі, анекдоткі, народныя аповеды, досціпы" гавораць аб змесціве гэтага зборніка. Гэта працяг працы ў даследаванні вытокаў творчасці Францішка Багушэвіча, якой аўтар прысвяціў шмат гадоў. Зборнік выдадзены ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" за кошт аўтарскага ашчаду. Аб гэтым у анатацыі ён паведамляе, дарэчы, для многіх павучальна, — "Гарэлкі не п'ю, цыгарэтаў не смалю, а за гэтыя грошыкі кніжачку выдаю..." Чытаючы такое выслоўе, можа ўзнікнуць вядомы дадатак пасля слоў: "не п'ю, не смалю..." Апярэджваю: аўтар — пенсіянер, інвалід з вайны. Вельмі шануе і паважае сваю жонку Клару, натхніцельку яго даследчай самаахвярнай працы, здольнай на эканомію мізэрнага сямейнага бюджэту.**

**Кніжка — гэта свайго роду ралля, узнятая Уладзімірам Содалем на Кушлянскім нерушы вуснай народнай творчасці. Да яго амаль ніхто не звяртаўся да моўнай, аповеднай спадчыны жыхароў гэтай мясціны, калі не лічыць самога Францішка Багушэвіча. Праз змешчаныя аповеды сучаснікаў чуецца яго лексіка, манера выказвання, такія ж далікатныя гумар, эротыка. А малюнак мастака Лявона Дударэнкі "Ф. Багушэвіч з сялянамі" на першай старонцы кніжкі як бы гаворыць, сцвярджае, што майстар "Дудкі беларускай" быў і застаецца з сваім простым людам, як бы і не паміраў Мацей Бурачок.**

**Кніжачка найбольш цікавай падасца тым, каму ймецца глыбей даведацца пра этнас нашага краю, людскія ўзаемаадносіны.**

**Наклад выдання невялікі, усяго 300 асобнікаў. Набыць гэты зборнік народных пярлінак можна толькі ў самога аўтара, які жыве ў Мінску: вул. Каліноўскага, д. 82, кор. 2, кв. 54. Тэл. (917) 264-78-48. Атрыманыя ж грошы-ахвяраванні за гэтую кніжачку пойдуць на выданне чарговай — пра Аляксандра Уланава, першага рэдактара газеты "Наша Ніва", заснавальніка ў Радашковічах першай беларускай гімназіі, якому налета споўніцца 140 гадоў, загінуўшага ў савецкім ГУЛАГу.**

**Мікола ЛАВІЦКІ**

Уладзімір Содаль

УМЕЙ СЛУХАЦЬ



***Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, знакаміты беларускі паэт і празаік Віктар Гардзей назваў свой зборнік лірыкі "Межань" — што значыць "гарачы летні час, калі паўсюль на рэчках і ў азёрах назіраецца працяглае сезоннае стаянне нізкіх узроўняў вады". Лета ў зеніце, зеніт жыцця паэта... Росквіт, які даў плён. Думаецца, менавіта гэткім чынам можна сфармуляваць асноўны сэнс кнігі "Межань". Паэзія філасофская, глыбокая, разважліва-медытатыўная, сабраная ў ёй, вельмі неадназначная. Ва ўсякім выпадку, яна кліча да роздуму...***



Са шчупаком на возеры Завышанскім.
Фота В. ЖУШМЫ

# ЖЫЦЦЁ У НЯЗВЫКЛЫМ ВЫМЯРЭННІ

## Філасофская лірыка Віктара Гардзея

Гэта для паэтычных твораў не тое каб не характэрна, але ў сучаснай беларускай лірыцы, трэба прызнацца, сустракаецца рэдка. Вершы пра каханне, вершаваная публіцыстыка і да т. п. — іншая справа, іх у нашай літаратуры хапае. А вось каб вершператварыўся ў філасофскі трактат сціслай, дасканалай, прыгожай формы... Хочаце знайсці такія прыклады — пазнаёмцеся з творамі В. Гардзея. І недарэмна зборнік вершаў паэта "Межань" атрымаў высокую літаратурную ўзнагароду...

Калі гаварыць шчыра, сучасную беларускую паэзію чытаю рэдка. Тут я поўнасцю салідарная з Л. Галубовічам: "якасных" твораў ёй відавочна бракуе. Справа тут не ў змесце і не ў форме, а ў тым, што наша паэзія часцяком не адпавядае патрабаванням жыцця. Яна сумная і нецікавая, бо пішацца для сябе і пра сябе. А як жа чытач? Што ён хацеў бы ўбачыць у паэтычным зборніку? Пра гэта, на жаль, амаль ніхто не думае. Ні тады, калі стварае, ні тады, калі выдае.

У кніжцы "Межань" я як чытачка знайшла для сябе многа цікавага. Метафарычная і вобразная, паэзія В. Гардзея спрабуе адказаць на запытанні, якія могуць узнікнуць у кожнага з нас у любую хвіліну: хто я ў гэтым свеце? нашто я жыву? якая сувязь існуе паміж маім мінулым, будучым і сённяшнім? і інш. Вельмі нечаканымі, між іншым, з'яўляюцца ў В. Гардзея падобныя адказы.

Звернемся да твораў, уключаных у зборнік. Назвы іх гавораць самі за сябе: "Успамін з маленства", "Памяць ніколі, відаць, не забудзе...", "Было — няпраўда і даўно...", "Жыву, як ёсць", "Не сказаць: жыццё слязой гняце...", "Храм" і інш. І засумуе душа, і памкнецца яна кудысьці далёка-далёка... Можа, у мінулае, а магчыма, і ў будучыню. Але важна, што далей ад жыццёвай мітусні і штодзённага клопату.

Амаль кожны з вершаў, уключаных у кнігу, — своеасаблівая рэмінісцэнцыя мінулага і сучаснага . Учарашні і цяперашні дзень самым дзіўным чынам пераплятаюцца, утвараючы складанае адзінства... не, не процілегласцей, а хутчэй супярэчлівасцей унутранага свету аўтара. Як у вершы "Раптоўны дождж, і я наскрозь прамок...":

*У лівень той, што прашумеў, густы*
*Назад ужо не ступіш ані кроку.*
*І адчуванне шэрай пустаты*
*І за спіной, і ўперадзе, і збоку.*

Самота, канечне, — гэта стан душы. Навакольная прырода тут зусім як бы і ні пры чым. Пейзажныя замалёўкі толькі дапамагаюць адцяніць, высветліць у мастацкім слове настрой паэта, паказаць яго перажыванні. А настроены аўтар, трэба сказаць, не дужа каб аптымістычна і весела. Магчыма, гэта яшчэ адна адзнака яго мастацкага таленту? Бо ў жыцці нашым, і сапраўды, не так ужо і багата радаснага, светлага, натхняльнага...

Лірычны герой В. Гардзея заўсёды адзінокі. Ён ідзе па жыцці з адбіткам ранейшых расчараванняў, горычы, неразумення з боку навакольных. Прызнацца, яго мала што цешыць і радуе. Хіба, можа, адчуванне добра выкананай працы. Ці ўспамін аб колішнім шчасці — тады душа спявала і імкнулася ў недасяжную далеч...

*Што ж, размова будзе ў нас цяжкая.*
*Адгукніся толькі, дзе ты знік?*
*Але моўчкі побач ён блукае —*
*Ці то цень, ці лёс мой, ці двайнік?*
*("Што ж, прысядзем, шчыра*
*пагаворым...")*

Мне б хацелася назваць В. Гардзея паэтам-імпрэсіяністам. У яго зборніку "Межань" дамінуюць паўтоны. Гульня фарбаў, настрояў, пачуццяў... Найтанчэйшыя нюансы думак, тонкае рэагаванне на любую падзею, на кожную, здавалася б, дробязь... І ва ўсім гэтым няма ніякай хваравітасці. Наадварот, чытач разам з аўтарам сталее, расце, набіраецца вопыту, адчувальнасці, уражлівасці... Робіцца мудрэйшым і спакайнейшым... Ператвараецца сам у філосафа... І ідзе па лесвіцы ўгору, да высокіх аблокаў, у якіх можна аб нечым запытацца і аб нечым параіцца... Мне асабіста такая паэзія — даспадобы!

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ ПРАЗ ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Журналіст Віктар Хурсік клопатам у айчынным друку (дакладней: у газеце "Звязда") займаецца самым што ні ёсць сучасным: забяспечвае ўсе тэхнічныя запатрабаванні — купляе паперу, рамантуе рэдакцыйныя памяшканні, набывае абсталяванне, абівае парогі многіх інстанцый... За пісьмовым сталом сядзіць зрэдчасу. Але ўсё ж піша. У апошнія два-тры гады — усё болей і болей. Друкуецца ў "Чырвонай змене", "Настаўніцкай газеце", "Культуры", часопісе "Маладосць" і, вядома, ж, у "Звяздзе". Па публікацыях і зразумелае кола зацікаўленняў — гісторыя Айчыны, найперш XIX — пачатак XX стагоддзя ў лёсе Беларусі. Таму зусім і невыпадковай падаецца мне асобная кніга Віктара Хурсіка пра Магдаліну Радзівіл — "Белы лебедзь у промнях славы"

Узгадайма жа, хто такая Магдаліна Радзівіл? Каб адказаць на гэтае пытанне, зазірнём у энцыклапедычны даведнік "Асветнікі зямлі Беларускай". Дзевяці Радзівілам прысвечаны персанальныя артыкулы.

*Францішка Уршуля Радзівіл (1705—1753) — пісьменніца, педагог, кіраўніца Нясвіжскага тэатра, Удальрых (Ульрых) Крыштоф Радзівіл (1712—1770) — пісьменнік. Соф'я (Апелька-Радзівіл) Радзівіл (1586—1612) — асветніца, прылічаная да святых. Міхаіл Казімір Рыбанька Радзівіл (1702—1762) — дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат. Мікалай Радзівіл Чорны (1515-1565) — палітычны, культурны і рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Мікалай Крыштоф Сіротка Радзівіл (1549—1616) — дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Мацей Радзівіл (1749—1800) — драматург, кампазітар. Людвіка Караліна Радзівіл (1667—1695) — асветніца і мецэнатка. Альбрыхт Станіслаў Радзівіл (1593—1656) — гісторык, аўтар мемуараў, прадстаўнік найбуйнейшага магнацкага роду на Беларусі.* А дзе ж Магдаліна Радзівіл? А, між іншым, менавіта яна — наўздзіў бескарыслівы мецэнат, той самы чалавек, дзякуючы падтрымцы якога існавала, рухала беларускую справу і выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". У 1914 годзе Магдаліна Радзівіл аказала грашовую дапамогу літоўскай гімназіі ў Марыямпалі, фундавала будаўніцтва гмаха Атэйцінінкаў у Коўне (Каўнасе). Досыць цікавая гісторыя з ахвяраваннем Магдалінай на будаўніцтва грэка-каталіцкага калегіума брыльянтавага кальє коштам у 15000 долараў. Як вядома, у свой час у Мінску паўстаў касцёл св. Сымона і Алены (дзякуючы намаганням Эдварда Вайніловіча). Магдаліна Радзівіл, ведаючы што ў касцёл ішлі ў асноўным палякі ці апалячаная беларуская шляхта, задумала стварэнне галоўнага храма для беларусаў. Ужо і праект быў падрыхтаваны. Да новага касцёла меркавалі прыбудаваць дзіцячую бальніцу і амбулаторыю. Княжна Радзівіл рыхтавалася ўкласці ў рэалізацыю праекта 350 тысяч рублёў. Велізарныя па тым часе грошы! Нечакана (нават пасля дазволу гарадской управы — маецца на ўвазе Мінскай) Міністэрства ўнутраных спраў выступіла супраць.

Магдаліна Радзівіл — гістарычны персанаж, пра які ўпершыню створана, напісана, выдадзена асобная кніга. Яе аўтар — не прафесійны гісторык. Але з поўнай адказнасцю можна сцвярджаць, што перад намі — класічная краязнаўчая работа. Можна нават заўважыць і так: краязнаўча-публіцыстычная работа. Відавочна па ўсім, што Віктар Хурсік у вандроўку да мясцін, звязаных з лёсам сваёй гераіні, адправіўся пасля таго, як узброіўся ўсемагчымымі архіўнымі звесткамі, а таксама звесткамі з адкрытых крыніц. Вядома ж, у Жорнаўку, на Асіповіччыну ў Віктара Хурсіка было шмат вандровак. І пасля кожнай з іх — удакладненні, новыя звароты ў бібліятэку і архіў. Тут нечым работа краязнаўца нагадвае колішняга рупліўца на ніве гістарычнай памяці Міколу Калінковіча і яго дакументальна-краязнаўчыя жыццяпісы пра Аляксандра Блока, Аляксандра Грыбаедава і Уладзіміра Самойлу. І Калінковіч, і Хурсік, у адрозненне ад многіх верхаглядаў, не шкадуюць часу на пошук, удакладненне дэталяў. Збіраючы ўсемагчымую інфармацыю пра гаспадыню Жорнавак, краязнаўца знаходзіць у Германіі дачку (95-гадовую!) кіраўніка маёнтка Жорнаўкі — немца Брутана. Ева Брутан паспела для знаёмства перадаць краязнаўцу альбом са здымкамі пачатку XX стагоддзя. Пагадзіцеся, рэдкая ўдача!

Збіраючыся пазнаёміць чытача з галоўнай гераіняй, аўтар найперш адкрывае перад чытачом самі Жорнаўкі. Раскрывае гісторыю паселішча, пачынаючы з далёкага сярэднявечча. Асабліва ўважлівы краязнаўца да радаводу Марыі-Евы-Магдаліны-Іосіфа-Эльжбеты-Апалоніі-Кацярыны (столькі імёнаў Магдаліны Радзівіл засталося толькі на паперы, гісторыя ж захавала адно) па бацькоўскай лініі.

Падказвае В. Хурсік і крыніцу знаёмства Магдаліны з беларускімі асветнікамі: *"Пасля смерці мужа Магдаліна (нагадаем:1895. — **А. К.**)... з радасцю пераехала на радзіму. Жыла ў Кухцічах, Жорнаўках, у Мінску, аднавіла старыя сяброўскія сувязі. Сярод іх з вядомым тагачасным мінскім лекарам Янам Офенбергам, які зрэдку наведваў родавую вотчыну Лочын, што за дзесяць вёрстаў ад Жорнавак. Офенберг пазнаёміў Магдаліну з цэлай плеядай пісьменніцкіх зорак будучай Беларусі, маладымі паэтамі, мастакамі, дзеячамі тэатра, палітыкамі. Паступовая яна ўвайшла ў кола*

---

Хурсік В.
Белы лебедзь у промнях славы: Магдаліна Радзівіл: Гіст. Нарыс / В. Хурсік. — Мн.: Пейто, 2001.

Бясспрэчна, ёсць у Беларусі паэты-філосафы. Адзін з іх, несумненна, — Віктар Гардзей. Якая ж у яго філасофія? Як некалі сказалі б, жыццясцвярджальная. Пераадолець роспач ад усведамлення хуткаплыннасці ўсяго зямнога здатны толькі вельмі мужны чалавек. Вось В. Гардзей і заклікае свайго чытача быць мужным, смела сустракаць жыццёвыя цяжкасці. Яго вершы выглядаюць як суцяшэнне і самому сабе, і іншым у хвіліны нягод і напасцяў:

*Ліст апалы на доле*
*Пакаціўся далей.*
*За ўзаранае поле*
*Смутак мой не святлей.*
*("Між узгоркаў даліны...")*

Ці як павучанне, сяброўская парада — сабе і чытачу:

*Бог цярпеў і нам цярпець наказваў,*
*Ды не знаць, адкуль прыходзіць боль.*
*("Не ў сляпой пакоры, а ў цярпенні...")*

Звярніце ўвагу на інтанацыю, з якой вымаўлены гэтыя радкі. Спавядальна-шчыры паэт выказвае сябе тут з рэдкаю цеплынёй, ён як бы дзеліцца з намі самым патаемным, гаворыць з намі надзвычай задушэўна. Адкрытасць аўтара закранае нас за жывое, прымушае адгукнуцца на сказанае — сардэчна і гэтак жа шчыра. І ўжо здаецца, што ты недзе там, за смугою, у чарадзейным велічным свеце Гардзеевай паэзіі. І не можаш выйсці адтуль, пакінуць гэтую чароўную краіну, у якой табе добра і ўтульна, дзе спраўджваюцца твае спадзяванні і чаканні... Там ты чуеш, напрыклад, такія словы:

*Аблокі — заложнікі вечнага руху —*
*І неба паўдзённага вечны спакой*
*Мяне закружылі і, гонячы скруху,*
*Паганы адразу палепшаў настрой.*
*("Аблокі — заложнікі вечнага руху...")*
Або вось гэткія:
*Птушыны грай паміж бяроз*
*Мацнее паступова.*
*Знікаюць дзесьці рэшткі слёз,*
*Што перальюцца ў слова.*
*("Світанак ціха настае...")*

У вобразным свеце паэзіі В. Гардзея ёсць месца і для такіх вершаваных радкоў:

*Б'е пярун, толькі я не ўздыхаю,*
*Бо люблю, ненавідзячы, свет,*
*Дзе няма пад кустом болей раю*
*І дажджом залівае кювет.*
*("Начаваў пад кустом ды ў кювеце...")*

Заўважце, колькі ў іх жыццярадаснага захаплення ўсім навакольным — як быццам бы іх аўтар вельмі малады чалавек. Можа, узрост паэта і сталы, але душа ж маладая, што робіцца відавочным з гэтых радкоў. Так, сапраўды, падаць духам проста сорамна, калі чытаеш вершы В. Гардзея. Лірычны герой паэта ўжо столькі ўсяго перажыў, што, здаецца, даўно звар'яцець можна было б. Але ж гэтага з ім не адбываецца...

Надзвычай цікавая ў В. Гардзея пейзажная лірыка. Яна вызначаецца яркай метафарычнасцю, як у такім прыкладзе:

*Дарожка праз жыта крутая.*
*Сляды капытоў на жарстве.*
*Трывожная песня ратая*
*З-за дымных разлогаў плыве.*
*("Хоць валуны гадоў ляглі на плечы...")*

І ўсё ж, і ўсё ж хацелася б заўважыць: галоўная адметная рыса паэзіі В. Гардзея — яе філасофская заглыбленасць, прычым у асобных выпадках нечаканая і нават дзіўная. Быццам жыццё, паводле разумення паэта, саткана з адных супярэчнасцяў і пабудавана на кантрастах. Але ж гэта, магчыма, і не зусім так... Між тым у вершах В. Гардзея вельмі яскрава выяўляюцца супрацьпастаўленні: рай — пекла, Бог — д'ябал, туга — радасць, гора — шчасце і г. д. Уся лірыка паэта мае ў сваёй аснове падобныя супярэчнасці і "нестыкоўкі". Адпаведна і чытача, што называецца, кідае то ў жар, то ў холад:

*Чую смех чужы й чыйсьці ўздых.*
*Чую дзесьці слабы гул авацый.*
*Галасы і мёртвых, і жывых —*
*Гэта, пэўна, знак галюцынацый.*
*("З тых мясцін, што сняцца*
*ўсё радзей...")*

Выкарыстаны прыём кантраснага супрацьпастаўлення надае паэзіі В. Гардзея драматызм і вастрыню. Дзякуючы гэтаму літаральна кожны верш з яго зборніка "Межань" уражвае, часам нават шакіруе, прымушаючы страпянуцца, задумацца, скінуць з сябе цяжар аднастайнасці шэрых дзён, выкараскваючыся з гнілога балота паўсядзённасці. Разам з тым паэтычныя творы В. Гардзея ўсё ж рэалістычныя. У іх больш практыцызму, разумнага разліку, здаровага сэнсу, чым у прозе асобных аўтараў. Гэта паэзія, у якой няма ўцёкаў ад рэчаіснасці, тым больш — яе адмаўлення. І, магчыма, ніхто не здолеў бы так, як В. Гардзей, паказаць будзённае нагэтулькі ўзнёсла і светла-ўзвышана, як у наступных радках:

*За сінявой, у хмурным часе*
*Ахвярны ранак не відзён,*
*І меней, меней у запасе*
*І спраў, і сіл, і проста дзён.*
*("Каб не пабег я рана-раным...")*

Але найбольш кранаюць вершы, уключаныя ў зборнік "Межань", сваёй чалавечнасцю. Паэт не проста дзеліцца з чытачом перажытым і набалелым. Ён спагадае ўсім нам, зычыць нам аптымізму, веры ў сябе, настойлівасці ў пераадоленні цяжкасцей. Таму "межаньскія" вершы В. Гардзея знаходзяць водгук у чытацкіх сэрцах — а значыць, напісаны недарэмна.

**Святлана ЯВАР**

*людзей, неардынарных, неабыякавых да лёсу Бацькаўшчыны, у большасці ўжо пацярпелых за свае нацыянальныя пачуцці і пераканані".* У 1904 годзе Магдаліна пазнаёмілася (выпадкова, у Англіі) з маладым Мікалаем Радзівілам. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, Магдаліна і Мікалай пабраліся шлюбам. Падрабязна апісваючы сямейныя адносіны, стаўленне арыстакратыі і мясцовых сялян да гэтага шлюбу, краязнаўца не абыходзіць самых вострых вуглоў. Карыстаецца пры гэтым і друкаванымі крыніцамі, і архіўнымі матэрыяламі. Давярае пры гэтым у большай ступені якраз знойдзеным у архіве сведчанням.

В. Хурсік досыць цікава расказвае пра характар гаспадарання ў радзівілаўскіх маёнтках. Варта зазначыць, што ацэначны кошт толькі Жорнаўкі ў 1910 годзе склаў 2765775 рублёў 86 капеек. У кастрычніку 1911 года пачала працаваць чыгуначная лінія да Жорнаўкі. Па гэтым часе падзея выключная. В. Хурсік заўважае: *"Як толькі да Верайцоў прабег першы цягнік, у купцах на лес недахопу не стала. Чарговыя лесасекі на восем гадоў былі прададзены купцу Мярэцкаму. У Градзянцы запрацаваў, пабудаваны ім, тартак-лесапільня, пачалося прамысловае развіццё края".* І тут хацелася зрабіць невялікае адступленне. Старонкі В. Хурсіка пра эканамічны, гаспадарчы бок справы нагадваюць, што ў нашым беларускім краязнаўстве амаль што абыдзены велізарны абсяг. Не даследавана гісторыя прамысловасці Беларусі, самых розных яе рэгіёнаў. Не даследавана належным чынам пытанне эканамічнага развіцця краю. У свой час, калі толькі падымалася савецкая ўлада, у Петраградзе, прыкладам, пачалі выдаваць зборнікі "Архіў гісторыі працы ў Расіі". А ў 1931 годзе Максім Горкі кінуў заклік аб стварэнні гісторыі заводаў. Азірнецеся на гісторыю Міншчыны, Магілёўшчыны, іншых куточкаў: якія толькі прадпрыемствы не бяруць свой пачатак у цянётах XIX стагоддзя. А чыгунка?! І яе гісторыя дастойным чынам не адлюстраваная ў гісторыка-краязнаўчай, дакументальнай літаратуры.

Але ўсё ж вернемся да галоўнага персанажа кнігі "Белы лебедзь у промнях славы". В. Хурсік досыць уважліва асвятляе нацыянальныя перакананні Магдаліны Радзівіл. Яна ўсямерна хацела акрэсліць беларускасць нашай Айчыны. І ці не найперш — праз падтрымку літаратурных праектаў. *"Завішанскі герб "Лебедзь", — піша В. Хурсік, — захаваўся на доўгія гады. І не толькі на кніжачцы Максіма Багдановіча, а і на выбраных творах Ядвігіна Ш., Канстанцыі Буйло і, магчыма, іншых творцаў. Праўда, пра дачыненні ўладальніцы герба да з'яўлення на свет гэтых кніг чытачы не даведаліся. Звычайная ў такіх выпадках прыпіска аб тым, чыім коштам выдадзеныя кнігі, была выдаўцамі праігнараваная. Хаця, па справядлівасці, менавіта Магдаліну трэба лічыць хроснай маткай Максімавага "Вянка". І не толькі з гэтай нагоды, а яшчэ і таму, што менавіта ў яе жорнаўскім маёнтку, у вёсцы Вяззе пачуў некалі маленькі Максім беларускую мову і праславіў яе сваім талентам". І далей: "Паступова імя Магдаліны паўстала хадзячай помаўкай. "Ехаць на Магдаліны" азначала тое ж, што ехаць у банк па грошы. Аднак, нягледзячы на яе агромністы фінансавы ўдзел у беларускім адраджэнні і найбольш у арганізацыі выдавецкай справы, сучаснікі яе не ўхвалялі. Схіліць голаў з падзякай перад прадстаўніцай адміраючага саслоўя, памешчыцай было не сучасна, а вось ашукаць яе, пазычыць і не аддаць — было ў той час нармальнай з'явай, праявай "сацыяльнай справядлівасці", павевам часу..."*

Безумоўна, кнігу В. Хурсіка нельга назваць дасканалай. Але не трэба забывацца, што перад намі — зусім не мастацкі расповед. Да таго ж "Белы лебедзь у промнях славы" — першы сур'ёзны дакументальны жыццяпіс Магдаліны Радзівіл.

Хацелася б назваць імёны тых, хто спрычыніўся да выдання кнігі. Грамадскі дарадца — кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан. Падтрымалі ідэю кнігі, усямерна дапамагалі Віктару Хурсіку Уладзімір Содаль, Уладзімір Дзянісаў, Тацццяна Панькова.

Выдадзеная невялікім тыражом кніга пра Магдаліну Радзівіл багата ілюстравана арыгінальнымі фотаздымкамі. Магчыма, пройдзе час — і кнігі, падобныя расповеду пра слаўную дзяячку беларускага руху, будуць запатрабаваныя шматкратна большымі тыражамі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

КРЫТЫКА

***Бы той закон намі часта паўтараецца гётэўская выснова: "Кожны пісьменнік, да вядомай ступені, выяўляе ў сваіх творах самога сябе".***




# НА ШЛЯХАХ ДА СЯБЕ

Безумоўна, літаратурны твор з'яўляецца свайго роду феноменам, бо ў ім спалучаюцца аб'ектыўная рэальнасць, фантазія і індывідуальнасць пісьменніка. Калі ж твор аўтабіяграфічны, то гэты сінтэз становіцца найбольш моцным, – ступень самавыяўлення тут максімальная і прыцягальнае аўтарскае "я" стаіць на першым плане. Пацвярджэннем таму служыць і кніга Веранікі Стральцовай "Шлях да сябе" (Мн., 2002) – грунтоўнае даследаванне сучаснай аўтабіяграфічнай прозы, асэнсаванне яе жанравай і выяўленчай прыроды як цэласнай мастацкай сістэмы.

На шляху да саміх сябе пісьменнікі знаходзяць розныя формы і сродкі самараскрыцця і, як сцвярджае даследчыца, "у аўтабіяграфічнай белетрыстыцы можна сустрэць любы празаічны жанр ці жанравую форму (ад мініяцюры да рамана)". Пра гэта сведчыць дзённік Б. Мікуліча "Аповесць для сябе", імпрэсіі і адлюстраванні А.Сямёнавай пад агульнай назвай "Святло загадкі", аповесць А. Адамовіча "Vixi", успаміны Л. Геніюш "Споведзь", аповесць С. Грахоўскага "Зона маўчання", эсэ Л.Дранько-Майсюка "Стомленасць Парыжам" і інш. А ў творчасці Янкі Брыля існуюць амаль усе жанры аўтабіяграфічнай прозы: лірычныя запісы, успаміны, мініяцюры, эсэ, апавяданні, аповесці, раман "Птушкі і гнёзды".

Вызначальнай прыкметай твораў гэтага кшталту з'яўляецца моцны нацыянальны пачатак, як і "ўстойлівы акцэнт на пытаннях духоўнага, нацыянальнага і моўна-культурнага Адраджэння". Такім чынам, нашы пісьменнікі ўдала выкарыстоўваюць магчымасць сказаць праўду пра свет і пра чалавека ў ім праз самавыяўленне, шляхам праўдзівага самараскрыцця.

Але якой павінна і можа быць ступень праўдзівасці?

Безумоўна, спавядальны характар аўтабіяграфічнага твора вымагае чысціцюткай праўды. Аднак жа, як слушна заўважае Вераніка Стральцова, "паўната ведання пра сябе немагчымая", таму і праўда раскрываецца не поўнасцю.

Наколькі глыбокім будзе самаўсведамленне асобы пісьменніка, наколькі шырокім будзе ахоп яго асабістага вопыту, настолькі і праўдзівым будзе твор. Разам з тым, важна, "якія менавіта моманты бягучага душэўнага жыцця і ўласна біяграфічныя, падзейныя элементы аўтар можа і хоча замацаваць для іншых і самога сябе, а што ён пакідае нявыяўленым, незамацаваным, неаформленым".

Гаворачы аб праўдзівасці, нельга забывацца і на тое, што мы маем справу з мастацкай літаратурай, заснаванай на ўмоўнасці. У адлюстраванні жыцця мастацкі твор дае не дакладную копію рэальнасці, а стварае сваю. Творчае пераасэнсаванне рэчаіснасці ў поўнай меры ўласціва і аўтабіяграфічнай прозе. Таму і тут ёсць вымысел і свае недакладнасці. Напрыклад, сведчыць В. Стральцова, Л. Дранько-Майсюк уводзіць у сваё эсэ "Стомленасць Парыжам" вобраз Непрыкаянага Паляка "як матэрыялізаваны ў творы сімвал адвечнай нязгоды: паміж праўдай мастацкай і праўдай жыццёвай...". Надараецца часам, каб раскрыць сэнс жыцця, трэба адступіць ад яго дакладнасці.

Кніга В. Стральцовай, між тым, наводзіць на супярэчлівыя думкі адносна мастацкага ўзроўню аўтабіяграфічных твораў. "Ступень мастацкасці матэрыялу часцей за ўсё вызначаецца не столькі характарам і якасцю апрацоўкі жыццёва-дакладнага матэрыялу, колькі самім маштабам творчай асобы аўтара, ракурсам і арыгінальнасцю яго мастацкага бачання", – зазначае даследчыца. Безумоўна, значнасць асобы пісьменніка мае вялікае значэнне, але ўсё ж аўтабіяграфічны твор належыць мастацкай літаратуры, таму і да яго павінны ў поўнай меры адносіцца агульналітаратурныя крытэрыі мастацкасці. Як мне падаецца, і, дарэчы, яно вынікае з кнігі, рашаючую ролю тут павінны адыгрываць "характар і якасць апрацоўкі матэрыялу".

"Можна быць выдатным паэтам, але пісаць дрэнныя вершы", – зазначыла неяк Г.Ахматава. Перафразуючы словы, скажам: можна быць выдатным празаікам і пісаць дрэнную, слабую з мастацкага боку аўтабіяграфічную прозу.

Тым не менш, у кнізе "Шлях да сябе" глыбока раскрываецца спецыфіка і сутнасць выяўлення аўтарскага "я", упершыню ў айчыннай літаратуры даследуецца аўтабіяграфічная проза ў розных яе відах і праяўленнях. Тым самым пакладзены пачатак асэнсавання гэтага напрамку творчасці. Прынамсі, заслугоўвае ўвагі літаратараў канцэпцыя В. Стральцовай аб вырашальным значэнні ў працы над аўтабіяграфічным творам ступені самаўсведамлення і мастацкага раскрыцця асобы.

А што ў цэлым да кнігі "Шлях да сябе", то для яе характэрны прадметны і пранікнёны псіхалагічны і настраёва-эмацыйны аналіз кожнага аўтабіяграфічнага твора, які даследчыца разглядае, і тут падаюцца цікавыя, плённыя і грунтоўныя іх параўнанні — аднаго з другім у розных аўтараў, як і розных твораў аднаго аўтара. Прыклад: "Споведзь" Л. Геніюш — сама па сабе, затым — гэты ж твор у параўнанні з "Зонай маўчання" і "Такімі сінімі снягамі" С. Грахоўскага, якія, дарэчы, розняцца таксама паміж сабою і ў якіх шмат як пазітыўна выяўленага, так і не выяўленага ў натуры, у стане душы, што прымушае даследчыцу ставіць пытанні.

Кніга "Шлях да сябе" паказвае на сталасць і годнасць даследчыцы літаратуры і ўяўляецца нам удачай В. Стральцовай.

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

# АПОВЕСЦЬ АДНАГО ЖЫЦЦЯ

"Азбука аднаго жыцця" — такі падзагаловак мае новая кніга Уладзіміра Ліпскага "Сын дня", выпушчаная "Беларускім кнігазборам". Перад намі сапраўды як бы свайго роду азбука. Ды не толькі таму, што аўтар асобныя раздзелы назваў так, што яны пачынаюцца ў парадку асноўных літар алфавіта ("Анатоль", "Бяда", "Вольга", "Гродна", "Дзед" і г. д), а сведчыць аб арыгінальнасці кампазіцыйнай пабудовы. "Сын дня" — азбука і іншага кшталту. У. Ліпскі ўзнаўляе жыццяпіс чалавека не проста драматычнага, а і трагічнага лёсу, які, нягледзячы на зведанае, не толькі не страціў веры ў людзей, ва ўсё лепшае і светлае на зямлі, а і здолеў дасягнуць шмат таго, што не па сіле іншым, тым, хто нічым у жыцці не абыдзены, але пазбаўлены належнай сілы волі, мэтанакіраванасці, апантанасці, без якіх не абысціся, калі верыш у сябе і жадаеш абавязкова дасягнуць пастаўленай мэты. Пісьменнік тым самым прапануе як бы азбуку такога пераадолення неспрыяльных умоў, збегу абставін, розных цяжкасцяў і робіць гэта на прыкладзе лёсу старшыні цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку Анатоля Нятылькіна.

... Як быццам, нішто не прадвяшчала бяды. Да адзінаццаці гадоў Толя Нятылькін шмат у чым быў падобны да сваіх сяброў. Але 25 сакавіка 1952 года яго напаткала бяда: калі ён разбіраў знойдзеную міну, адбыўся выбух, а ў выніку хлапчук апынуўся, кажучы словамі Рыгора Барадуліна, у "палаце мінёраў". Урачы ўратавалі Толю жыццё, але намаганні вярнуць зрок нічога не далі.

Хто ведае, як бы склаўся пасля гэтага лёс Нятылькіна, калі б ён не трапіў у Гродзенскую школу сляпых, у якой падабраўся выдатны педагагічны калектыў. Вопытныя настаўнікі паспрыялі таму, што ў яго з'явілася жаданне не проста вучыцца, а старанна авалодваць ведамі. У. Ліпскі падрабязна ўзнаўляе, як ягоны герой, паступова пазбаўляючыся фізічнай немачы, пераадольваючы няўпэўненасць у сабе, набіраўся веры, прагі выстаяць. Невыпадкова адзін з раздзелаў кнігі так і называецца "Жаданне жыць". За гэтымі словамі — важкі і глыбокі сэнс, бо Нятылькін, валодаючы вялікай сілай волі, жадаў не проста выстаяць, а менавіта жыць. Ярка, паўнакроўна. Так, каб хацелася забыць пра перажытае. Ды і каб іншыя забываліся пра тваю страшную інваліднасць.

Кніга тым і цікавая, значная, што, прывабліваючы глыбокім псіхалагічным асэнсаваннем лёсу героя, адначасова нясе ў сабе і важкі аптымістычны патэнцыял. І няхай Анатоль Нятылькін, у адрозненні ад Аляксея Марэсьева, не здзейсніў подзвігу ў гады вайны, яго жыццё — таксама подзвіг.

Хіба можна інакш паставіцца да Анатоля Іванавіча, ведаючы, што ён не толькі паспяхова скончыў школу, а і, нароўных з іншымі, паступаючы на гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута, паспяхова пераадолеў велізарны конкурс, калі "з выпускнікоў школ выбіралі толькі пяць чалавек". А ў час вучобы ў вышэйшай навучальнай установе "меў мянушку "Генерал". Такое "званне" займеў з-за сваёй мажной постаці, камандзірскага, бадзёрага голасу, з-за светлага розуму і ўмення бачыць усё вакол сябе. Ён і ў інстытуце ўзняўся да вяршынь нефармальнага лідэра.

Уладзімір Ліпскі імкнецца не прапусціць ніводнага больш-менш значнага моманту ў жыцці Нятылькіна, уважліва прасочваючы, як ён дасягаў усё новых і новых поспехаў у сваім жыцці. Падрабязна расказваецца пра тое, як знайшоў сваё сапраўднае сямейнае шчасце, а выпускніца Ленінградскага педагагічнага інстытута Тамара Аляксеева стала яго надзейным паплечнікам. Аднак хранікальнасць ва ўзнаўленні жыццяпісу героя не перашкаджае аўтару рабіць адступленні, у тым ліку і лірычныя, і гэта надае ягонаму расказу яшчэ большую непасрэднасць, цеплыню. Асабліва, калі гаворка заходзіць аб паездцы разам з Анатолем Іванавічам па мясцінах, што яму асабліва блізкія і дарагія.

Багатая кніга і ілюстрацыйным матэрыялам, што, безумоўна, ідзе толькі на карысць ёй, выдадзена паралельна ў двух варыянтах: у арыгінале і рускамоўным перакладзе Л. Кудраўцавай. Нарэшце, "гучыць" у ёй і голас самога Нятылькіна, які звяртаецца да кожнага, хто пазнаёміцца з ёю:

Алесь МАРЦІНОВІЧ



Анатоль МАЙСЕЕНКА



# ВЯСНОВЫ КАЛЕЙДАСКОП

## ВЯСЕЛЬНАЯ БАЛАДА

*У небе над сялом*
*Было ад зорак цесна.*
*Махаючы крылом,*
*Ляцела ў далеч песня.*

*Музыка так іграў,*
*Стараўся на вяселлі,*
*Што сціх і шолах траў,*
*І зоркі аж прыселі.*

*Зачараваны ўсе*
*Мелодыяй баяна.*
*Нявесцінай красе*
*І жаніху пашана.*

*Ён цалаваў пры ўсіх*
*Яе — зусім няўмела.*
*У чорным быў жаніх,*
*Была нявеста ў белым.*

*Сама — як макаў квет —*
*Яе тугое цела*
*За жаніхом услед*
*Хілілася нясмела.*

*Іх з месца падымаў*
*Вясёлы покліч — "Горка!",*
*І ёй жаніх шаптаў:*
*"Люблю... Мая ты зорка!".*

*Вяселлейка гуло,*
*Да ранку елі, пілі.*
*У застоллі ўсё сяло —*
*На шчасце чаркі білі.*

*Напоўніўшы цяплом,*
*Віно вяло расплату.*
*І не адзін ілбом*
*Асунуўся ў салату.*

*І толькі ён, яна*
*Не пілі і не елі.*
*Хмяльныя без віна*
*Глядзелі ў бок пасцелі.*

*Паспеў ён мужам стаць...*
*Пасля ў гарах Афгана*
*Вучыўся выжываць*
*Пад кулямі душмана.*

*Паклоны слаў жане,*
*Праклёны — ваенкому.*
*Ён вернецца... ў труне*
*Да зор сваіх дадому.*

## ЛЮБЛЮ

*Мне разгадаць не хопіць сіл,*
*Чаму дабро абрынута,*
*І воблачка за небасхіл*
*Чыёй рукой закінута?*

*Чаму спрадвеку ўсіх глыбей*
*Калодзеж людскай памяці?*
*Святло матуліных вачэй*
*Не падуладна замеці.*

*Чужую ўсмешку не лаўлю:*
*Нашто, калі прытворная?*
*Злучае неба і зямлю*
*Вясёлка шматкалёрная.*

*Вятры зайгралі, загулі,*
*Ды сонца зноў чакаецца.*
*Лісток жаўтлявы да зямлі*
*Марудна апускаецца.*

*Што з бронзай восеньскай*
*зраблю*
*І з павуцінкай срэбнаю?*
*З узростам больш і больш люблю*
*Ўсю прыгажосць паднебную.*

*І я пакіну гэты свет*
*Настануць дні замглёныя.*
*Мне майго дома вокны ўслед*
*Зірнуць, журбой зашклёныя.*

## АДНОЙ ЖАНЧЫНЕ

*Мы не спаткаліся ў той вечар:*
*Вы не прыйшлі, хоць абяцалі.*
*Мой горкі смутак недарэчы*
*Не зоркі — людзі заўважалі.*

*Пад сэрца стук і перабоі*
*Чакаў, чакаў я Вашых крокаў,*
*А ўзнагароджан быў журбою:*
*Вы гэтак блізка й так далёка!*

*Жывеце ўтульна ў белым*
*доме, —*
*Рукой падаць,*
*за сіняй рэчкай.*
*Масток нас звёў і пазнаёміў,*
*І я гару,*
*згараю свечкай.*

*Каторы дзень гляджу бясконца*
*На той масток я ва ўсе вочы.*
*Ды не патрэбна свечка сонцу,*
*Без свечкі нельга толькі ночы...*

## НАПРАДВЕСНІ

Алесю Пісьмянкову

*Усміхаецца мне сонца,*
*Едзе дзень без палазоў.*
*Залятае праз аконца*
*Шоргат шын. Віск тармазоў.*

*А з вясною сёння што там? —*
*Цеплыні ізноў няма.*
*Галалёдзіцай, сумётам*
*Агрызаецца зіма.*

*Маладзічка сцежынаю*
*З дзіцем на руках*
*спяшыць.*
*Пад прыгожаю нагою*
*Снег іскрыцца і рыпіць.*

*А малы, хоць стыне носік,*
*Так цікаўна пазірне:*
*Бач, разлёгся чорны* **пёсік**
*На бялюткім дыване.*

*Снег і злева, снег і справа,*
*Ды прыродзе не да сну.*
*Тут мой дом — мая дзяржава*
*І надзея на вясну.*

## ЗНАЁМАЙ

В. Г.

*Маладосць прайшла залевай —*
*Залатыя былі дні.*
*Ты хадзіла каралевай,*
*І ў вачах цвілі агні.*

*За табою хлопцы — гужам.*
*Па табе шмат хто ўздыхаў...*
*Я гляджу на твайго мужа,*
*Быццам нешта ў мяне ўкраў!*

•

*Я вашага не адкушу —*
*Ў мяне свая ёсць скібка хлеба,*
*Глыток вады пад сінім небам,*
*Дзе я расціў сваю душу.*

*І хор ваш я не заглушу,*
*Ды не таму што ціхі голас:*
*Вунь наліваецца мой колас, —*
*Нашто мне грэх браць на душу?*

*Я не хлусіў і не хлушу.*
*З маленства рад скарынцы*
*хлеба,*
*Глытку вады —*
*Што болей трэба?*
*Мне б захаваць сваю душу...*

•

*Ніхто не дасць мне лішні дзень,*
*Яго ніхто не купіць.*
*І ноч, як вечаровы цень,*
*Сама ў свой час наступіць.*

•

*Усё мне тут міла і гожа,*
*Я родным прывык даражыць:*
*Як сонца без неба не можа,*
*Так небу без сонца не жыць.*

•

*Больш разумееш год ад году:*
*Тут нават красачка пяе.*
*Мастак не ты,*
*Мастак — прырода,*
*А ты капіруеш яе.*

•

*Пульсуе пругка ў жылах кроў,*
*Турбот не мае.*
*Ў жыцця мільёны языкоў,*
*А смерць — нямая.*

•

*Вось гэта дарога віхляе ў астрог,*
*Другая вядзе да багацця.*
*А я і здароўя свайго не зберог,*
*Няма ні спакою, ні шчасця.*

•

*А ноч рыхтуе да нябыту*
*Аднойчы прышлых на Зямлю:*
*І тых, каму душа закрыта,*
*І тых, каго да слёз люблю.*



# СПОВЕДЗЬ

## АПАВЯДАННЕ

Ніна РЫБІК



Вулляна, сухая, як трэска, і зморшчаная, як печаны яблык, старая, ляжала ў ложку, накрытая дзвюма коўдрамі і час ад часу скаланала хату сухім адзёрлівым кашлем. Прыхварэла яна зусім недарэчы, перад самым святам. Прастудзілася — надоечы бялізну мыла, а паласкаць па старой звычцы пайшла на рэчку. Вядома, магла б тыя латкі і ўнучка памыць, яна і сварылася потым, плакала нават, што бабка сябе не шкадуе. Ды Вулляне ўсё здаецца, што дзіця так не зробіць, як яна сама. Хоць Кацька даўно ўжо не дзіця, школу заканчвае, і рабіць усё ўмее хутка і спрытна, але хапіла дзяўчынцы гора за яе невялікі пакуль век. Бабуля ж адзіная ва ўсім свеце родны ёй чалавек...

Дзверы расчыніліся, расчырванелая, усмешлівая Каця імкліва ўляцела ў хату, прынёсшы з сабой у іх затхлае, прапахлае хваробай і лекамі жытло марозную свежасць зімовага надвячорка і юнацкую прагу жыцця. Бабуля залюбавалася ёй: вочкі блішчаць, у валасах іскрацца не паспеўшыя растаць сняжынкі, зграбны стан тонкі і гнуткі, як прыбярэжная іва — прыгажуняй вырасла яе ўнучка, уся ў нябожчыцу-маці. Ды і сябе, маладую і спрытную, пазнавала часам Вулляна ў Каці.

Унучка хуценька скінула боцікі, старэнькі, яшчэ мамін, палітончык. "Абавязкова трэба неяк скруціцца і купіць дзіцяці прыгожае паліто. І добрыя боты! Нявеста ўжо, лічы, а ходзіць у абносках", — у каторы ўжо раз падумала Вулляна і ўздыхнула, разумеючы, як няпроста ёй будзе "скруціцца" са сваёй ды Кацінай невялікіх пенсій.

— Ну як ты, бабка? Чаму ўздыхаеш? Не палягчэла табе? — кінулася дзяўчынка да старой.

— Палягчэла, — зманіла Вулляна і зноў зайшлася кашлем. Крыху аддыхаўшыся, прасіпела:

— Я травы напарыла, і парашкоў нейкіх фельчарка прынесла, дарагіх.

— Давай я табе банкі пастаўлю ці гарчычнікі.

— Ды не, дзіцятка, не трэба пакуль, — не прыняла прапанову бабуля. — Няхай хіба на ноч. Лепей раскажы, што ў школе новага?

— Што там можа быць новага, у школе, — махнула рукой Кацька. — Нармальна ўсё. Адзнакі за чвэрць выставілі. У мяне адна чацвёрка па англійскай. Толькі ты не сварыся, бабка, я яе абавязкова выпраўлю, вось пабачыш. А затым мы ёлку прыбіралі

Праз момант нібы спахапілася:

— Бабка, а калі мы будзем ёлку ставіць? Я, як ішла дахаты, бачыла, што Свецін тата ўжо панёс дахаты. Прыгожая такая, пушыстая...

Старая цяжка ўздыхнула:

— Бо ў Светы ёсць тата, вось ён і паклапаціўся зараней... А хто пра нас з табой, сірот няшчасных, падумае? Быў жывы наш дзед...

— Дык што, у нас сёлета ёлкі не будзе? "Божа, якое ж яна яшчэ дзіця", — падумала Вулляна і зноў моцна, ажно да слёз, закашлялася. Крыху аддыхаўшыся, прытуліла да сябе ўнучку:

— Ну што ты кажаш такое? Будзе ў нас ёлка, абавязкова будзе. Вось папяжу крыху, адпачну — і схаджу да дзядзькі Івана, папрашу, каб прынёс нам з лесу. Бо і праўда, што ж за Новы год без ёлкі? І падарункі табе Дзед Мароз куды пакладзе?

— Ой, бабуля, толькі расказвай мне пра Дзеда Мароза, — залівіста засмяялася Каця. — І ўвогуле, не трэба мне ніякіх падарункаў, у цябе пенсія і так малая. Лепш лякарства сабе добрае купі, каб папраўлілася хутчэй, да свята.

...Назаўтра ў хаце бабы Вулляны і Каці пахла хвояй і святам. Дзяўчына дастала з гарышча скрынку з цацкамі, асцярожна разгортвала старую пажоўклую паперу, у якой яны былі загорнуты. Думала,як упрыгожваць прынесеную дзядзькам Іванам ялінку. Для яе гэта быў самы радасны і доўгачаканы, любімы з маленства момант, нават больш урачысты, чым сам Новы год — прадчуванне свята казкі. І хоць ёлка была не такая прыгожая і пушыстая, як у Светы, рэдкаватая і крыху аднабокая, прадчуванне нечага незвычайнага ад таго не станавілася меншым.

Надыходу Новага года Каця чакала з асаблівым нецярпеннем. У гэтым годзе яна скончыць школу, паступіць ва універсітэт... Хоць бабуля, калі пра тое заходзіць гаворка, заўсёды папераджальна ківае пальцам: "Не кажы, дзіця, "гоп", пакуль не праскочыш", яна абавязкова паступіць! Хоць бы для таго, каб даказаць, што не ўсё ў жыцці вырашаецца блатам ды грашыма. Яна — лепшая вучаніца ў школе, ніхто лепш за яе не ведае матэматыку, не піша лепш сачыненні — дык каму ж тады, як не ёй, вучыцца ў тым універсітэце? І факультэт яна выбрала сабе не абы-які, а юрыдычны, той самы, на якім вучыцца гэты задавака Косцік, старшынёўскі сын! З якой фанабэрыяй ён заявіўся летась на вечар сустрэчы выпускнікоў! У чорным доўгім паліто, дарагім пінжаку, з плэерам і слухаўкамі — і паглядаў на ўсіх звысака... Толькі калі яна, Каця, на сцэну выйшла, каб павітаць гасцей, погляд яго — яна ж бачыла! — стаў зусім іншым, здзіўлена-захопленым, нібыта ён убачыў яе ўпершыню. А затым, на дыскатэцы, запрасіў яе на танец і прашаптаў на вушка: "Прыгажуняй ты стала, Кацька, толькі шкада, што яшчэ малая". Яна ўся чырванню залілася ад нечаканасці і такога нахабства. Думала: хай толькі яшчэ раз падыдзе — яна яму адкажа! А ён больш і не падышоў — ёй нават крыху крыўдна было. Толькі глядзеў увесь час, вачэй не зводзіў. Пабачым-пабачым, што гэты Косцік скажа, калі ў наступным годзе яны сустрэнуцца ва універсітэце! Ці не, лепш на наступным вечары сустрэчы, калі яна прыйдзе ў сваю школу таксама студэнткай і таго ж факультэта. Запросіш ты, задавака, мяне на танец, а я скажу: "Выбачай, Косцік, ты добры хлопец, але занадта стары". А калі ён пойдзе яе праводзіць (чамусьці яна ні хвілінкі не сумнявалася, што ён запросіць яе на танец, а затым захоча правесці дахаты), яна перад самым яго носам закрые веснічкі і скажа: "Выбачайце, Канстанцін Пятровіч, але дзіцячы час ужо скончыўся. Магу паклікаць бабулю".

Бабуля, якая ўвесь гэты час назірала за ўнучкай з ложка, не вытрымала:

— Пра што такое прыемнае задумалася, дзіцятка, што ажно свецішся ўся?

— Ды так, ні пра што, — сумелася Каця.

І, прычапіўшы на яловую галінку апошнюю бліскаўку дожджыку, падсела да бабулі на ложак, папраўліла на старой коўдру, пагладзіла яе зморшчаную руку.

— Бабка, можна, я цябе пра нешта спытаю? Толькі ты не смейся...

— Добра, унучачка, пытай.

— Бабуля, скажы, толькі праўду: ёсць на свеце каханне? Ці гэта толькі ў кніжках пра яго пішуць?

Старая пільна пагледзела на дзяўчынку, і сэрца яе сціснулася: вырасла яе Кацька! Ёлачку просіць, як малая, з дожджыкам па хаце кружыцца, а ў галаве вунь што — каханне...

Яна ведала, што рана ці позна павядзе яе хлопец унучку з хаты. У яе будзе сваё жыццё і, Бог дасць, сваё шчасце... Але старой усё здавалася, што яна яшчэ малая, дзіця горкае. І раптам убачыла тое, чаго не заўважала ў штодзённай мітусні: вырасла яе Кацька, заневесцілася!

— А табе што за патрэба такая — ведаць пра каханне? — скаўтнуўшы даўкі камяк, што раптам засеў у горле, паспрабавала ўсміхнуцца бабуля. — Мо час ужо да вяселля рыхтавацца?

— Ну я ж прасіла цябе: не смейся... — пакрыўджана ўнурыла галаву дзяўчына. — Пры чым тут вяселле? Я, можа, увогуле замуж не пайду, што я там не бачыла, у тым замужы!

— Нічога ты, дзіцятка, яшчэ не бачыла — ні ў замужы, ні без замужу, — горка ўздыхнула Вулляна. Ды, бачачы, што ўнучка зусім скісла, прымірэнча пагладзіла яе па галаве, прытуліла:

— Ну-ну, не сярдуй. Я ж так проста сказала. А замуж ты пойдзеш, вунь якой прыгажуняй вырасла! Дзе такой у дзеўках застацца. Вось толькі каб шчаслівая, каб муж табе добры трапіўся... Бо нездарма ж старыя людзі кажуць: выйсці замуж — не напасць, як бы замужам не прапасць.

— Бабка, ну пра што ты кажаш, які замуж? Мне яшчэ вучыцца трэба! — ускіпела Кацярына. — Я цябе зусім пра іншае пытала, а ты адразу пра сваё: замуж, замуж...

— Пра каханне? — нібыта толькі цяпер успомніла старая. — Ёсць на свеце каханне, а як жа, дзіцятка, ёсць. Жыццё без кахання ўсё роўна, як навагодняе свята без ёлкі — ніякай радасці. Толькі мала ў каго яно шчаслівае бывае...

— А чаму?

— Дык хто ж яго ведае? То, бывае, хлопец кахае дзяўчыну, а яна ад яго нос верне, а то наадварот. А калі ўдваіх любяцца, адно на аднаго наглядзецца не могуць, дык людзі, здараецца, перашкодзяць, разлучаць. У жыцці ўсялякае бывае, таго і ў кіно не прыдумаеш, што лёс часам закруціць.

Каця памаўчала, усведамляючы, што сказала бабуля і сілячыся зразумець, хто можа перашкодзіць дваім, калі яны кахаюць адно аднаго. Вось яна б нікому свайго каханага не аддала, ніякіх людзей не паслухала б...

— Бабка, а ты нашага дзеда кахала? — праз нейкі час зноў падступілася яна да бабулі.

Вулляна пагледзела на ўнучку неяк дзіўна, насцярожана.

— А як жа, кахала, — адказала пасля некаторай запінкі. І дадала цішэй: — Я яго моцна кахала, дзіцятка.

— Ну вось, а кажаш, што каханне толькі нешчаслівае бывае! — засмяялася радасна Каця. — Вы з дзедам вунь як доўга жылі! І не сварыўся ён ніколі. Шкадаваў — і цябе, і мяне. Я ж памятаю, як ён мяне малую на назе гушкаў. Гасцінцы заўсёды з крамы прыносіў, а з пакосу — зайчыкаў хлеб. Я тады і праўда верыла, што ён ад зайца, такі смачны быў. Казкі мне на ноч чытаў. Вось як мама расказвала казкі, я чамусьці не помню, толькі як дзед, — дадала з горыччу. І, памаўчаўшы з хвіліну, зноў спытала:

— Бабка, а мама тату кахала?

Пытанне прагучала нечакана, як стрэл у цішыні. Вулляна збялела, зноў закашлялася, адвярнуўшыся да сцяны, каб Каця не заўважыла страху і разгубленасці ў яе вачах. Тая цярпліва маўчала, чакала адказу. Так і не дачакаўшыся, прамовіла ціхенька, нібы сама сабе:

— Я ведаю — не кахала... Таму ён яе і забіў...

Вулляна ўскінулася з падушак і нечакана груба адпіхнула ўнучку ад сябе.

— Не вярзі глупства! Што ты ведаеш, што ты можаш ведаць — ты ж тады зусім яшчэ дзіцём горкім была!

— Няпраўда, бабуля, — пакрыўджаная, што ёй не вераць, запярэчыла Каця. — Я, праўда, маму дрэнна памятаю, толькі тое, як яна расчэсвала свае доўгія валасы. І яшчэ як мы прыбіралі з ёй ёлку, — ужо цішэй, нібы запаветную таямніцу, выціснула дзяўчынка. — І яшчэ памятаю, як яна ціхенька плакала, калі яе біў тата.

— Не называй яго татам! — закрычала Вулляна. — Які ён бацька? Ён не заслугоўвае гэтага слова, ён кат, нелюдзь!

— Ага, на пахаванні ўсе таксама казалі, што ён забойца і нелюдзь, — ціхенька працягвала гаварыць, нібы сама з сабою, Каця. — Пахаванне я добра запомніла. Было шмат людзей, і ўсе плакалі, казалі, што мама такая маладая, а Бог ёй даў такую пакутную смерць.І яшчэ ўсе шкадавалі мяне, гаварылі, што я бедная сірата. Я не разумела, што такое смерць, што гэта такое — сірата і чаму яна бедная, чаму мама так доўга спіць і не ў сваім ложку, а ў гэтай драўлянай скрыні. Ты плакала гучней за ўсіх і крычала, што сама ва ўсім вінавата, што гэта Хадоска з таго свету шле табе праклён і прасіла дараваць, не караць так цяжка. Дзед тады ўзяў мяне за руку і вывеў на двор. Мы доўга стаялі на вуліцы, ажно пакуль я не змерзла. Ён маўчаў і курыў, а калі я сказала, што мне холадна і папрасілася ў хату, ён пагледзеў на мяне так, нібы ўпершыню ўбачыў, узяў на рукі і сказаў: "Вось, дзіцятка, што нарабіла,якая бяда. Каб жа я ведаў тады, што так будзе..." А калі скрыню з мамай паставілі на машыну, зайграла музыка, і я яшчэ падумала: чаму ўсе плачуць, калі так хораша іграюць? Калі музыка, то трэба танцаваць і весяліцца. На могілках дзед падвёў мяне да труны і сказаў: "Развітайся з мамай, Кацька". Я не разумела, чаму з мамай трэба развітвацца, куды яна паедзе, яна ж нічога не казала і нікуды не збіраецца, спіць сабе ціхенька. А затым мяне адвялі ўбок, я пачула, як стукаюць малаткі. І ўсё. А ты кажаш, што я нічога не памятаю...

Вулляна маўчала. Толькі моцна сціснутыя сухія кулачкі ды слязіна, што выкацілася з-пад заплюшчаных павек, выдавалі тую буру, што бушавала зараз у яе душы.

Але Каця нічога не заўважала.

— Бабка, а хто такая Хадоска? І чаму ты казала, што яна цябе пакарала? Хто яна такая, каб некага караць? І ўвогуле, за што цябе караць, ты ж у мяне такая харошая...

Бабуля, здаецца, не пачула: яна ўсё гэтак жа ляжала, заплюшчыўшы вочы і павярнуўшы галаву да сцяны, толькі цяжка дыхала. Каця падумала, што яна заснула і намерылася ціхенька ўстаць і пайсці. Ды старэчыя пальцы нечакана ўчэпіста ўхапілі яе руку.

— Пачакай, дзіцятка... — амаль прашаптала старая. — Пасядзі. Калі ты так просіш, я раскажу табе, хто такая Хадоска. І пра тое, за што яна мяне пакарала. І ўсё чысценька раскажу... Трэба, каб ты ведала. Ад мяне, не ад людзей. Я ўсё думала — няхай пазней калі, як ты падбольшаеш, паразумнееш... Ды старая я ўжо, раптам не паспею? Так і пайду са сваёй пакутай на той свет, са сваім грахом недараваным...

Каця прыціхла, нібы адчула, што зараз яна даведаецца нешта важнае, магчыма, самае галоўнае ў сваім жыцці, што ад яе, яна падсвядома адчувала гэта, заўсёды хавалі.

Вулляна села на ложку, паклаўшы да сцяны падушку, каб было ямчэй, ухутала ногі коўдрай. Доўга кашляла, закрыўшы твар насоўкай, цяжка ўздыхала, успамінаючы нешта сваё, збіралася з думкамі.

І нарэшце загаварыла:

— Ты вось пытала, ці ёсць каханне на свеце, ці кахала я твайго дзеда. А як жа, унучка, кахала, мацней жыцця кахала. Толькі не мела я права на тое каханне. У дзеда жонка была да вайны, тая самая Хадоска, пра якую ты пыталася. Яна страшная была, непрыгожая, хворая. А дзед наш прыйшоў у сяло з Украіны, як там голад быў. Прыйшоў і стаў прасіцца, каб у каго парабіць за кавалак хлеба. Бацька ў Хадоскі багаты быў, усяго ў яго было — і грошай, і збожжа, і дабра ўсякага. Толькі яе ўсё роўна ніхто замуж браць не хацеў. А дзед не паглядзеў, што яна непрыгожая, ды яшчэ й старэйшая за яго, пайшоў да іх у прымакі. Бо ведаў, што такое голад і казаў увесь час, што няма красы лепшай, чым хлеб. Не любіў ён яе ніколі, на хлебе ажаніўся. А яна, Хадоска, ад шчасця млела. Ну яшчэ б, такі хлопец — ты ж памятаеш, дзед наш і пад старасць прыгажун быў, а ў маладосці то і зусім вачэй не адвесці. Хадоска дзіцятка нарадзіла, праўда, слабенькае, бо сама надта ж хваравітая была. Ты мо памятаеш, да нас часта цётка Соня прыходзіла? То гэта і ёсць тая дзедава дачка.

— Бабуля, а ты? Ты як за дзеда замуж пайшла? — зацерабіла бабуліну руку ўнучка, прыспешваючы расповед.

— А мне ён з першага дня, як у вёсцы з'явіўся, у сэрца запаў. Ты б бачыла яго тады — высокі, чарнявы, плячысты, ну што той асілак з казкі. Як заспявае дзе на бяседзе сваю хахляцкую песню — у другім сяле чуваць. Толькі я да таго часу ўжо замужам была. І дачушку гадавала — тваю маму...

— Дык значыць, гэта праўда, што дзед мне не родны? — охнула Каця. — А я з Танькай некалі ледзь не пабілася, калі яна тое сказала...

— Праўда, ластаўка, праўда. Ды яшчэ не ўся праўда...

Перадыхнуўшы і глытнуўшы з кубка рудога травяного напою, Вулляна працягвала:

— Муж мой першы з вайны не вярнуўся. Мы і пажылі зусім мала. Сёння мне часам здаецца: а ці быў ён у мяне, той першы муж? Нават картачкі ніводнай не засталося. Хіба вось толькі ты — маці твая на яго, нябожчыка, падобная была, усе крапелькі падабрала, а ты ў маці ўдалася...

Дзед наш — ты ўжо мне даруй, я буду яго так называць, па звычцы, ды і быў ён табе сапраўдным дзедам, бо глядзеў, як родную, — ён таксама на вайне быў. Як галасіла Хадоска, як яго праводзіла! Наказвала: "Ты ж, родненькі, нізенька прыгінайся, як страляць будуць, каб не забілі". Усе з яе смяяліся... А дзед не прыгінаўся — ты ж ведаеш, колькі ў яго ўзнагарод, баязліўцам іх не даюць. Ды вось суджана было — выжыў, нават не па-

(Заканчэнне на стар. 14—15).

# ГАРМОНІКАЎ — СЯМ'Я!

***Жыве ў Беларусі незвычайны чалавек: загадчык музея гармонікаў БДУ культуры, выкладчык кафедры народна-інструментальнай творчасці гэтага універсітэта, нястомны збіральнік калекцыі музычных інструментаў, мастацкі кіраўнік ансамбля "Чароўныя музыкі", сябра Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці і Міжнароднай камісіі па народных песнях, танцах, касцюмах і інструментах, проста цікавы суразмоўца — Міхаіл СЛІЗКІ.***

Штуршком для стварэння музея гармонікаў сталася адкрыццё новага памяшкання Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Дырэктар гэтага музея ў Музычным завулку Зінаіда КУЧАР ведаючы пра яго калекцыю гармонікаў, прапанавала Міхаілу Слізкаму выставіць інструменты ў якасці экспазіцыі ў сваім музеі. Потым пра існаванне такой калекцыі ў выкладчыка універсітэта дазналася рэктар БДУ культуры Ядвіга Грыгаровіч. Яна пераканала збіральніка гармонікаў перавезці свой скарб ва універсітэт і стварыць на базе гэтай калекцыі вучэбна-творчую лабараторыю па вывучэнні гармоніка і музей гармонікаў.

Музей пачаў працаваць з 20 студзеня 2003 года. Ужо 21 студзеня наведаў яго міністр культуры Расіі Міхаіл Швыдкой. Неўзабаве з экспазіцыяй азнаёміліся таксама дэлегацыі з Італіі, Даніі, Германіі.

А збірае гармонікі М. Слізкі з 1992 года. Іграе ён на гэтым інструменце з дзяцінства, цікавіцца ім як аматар беларускай танцавальнай музыкі. Першым у



калекцыі М. Слізкага быў інструмент, што зрабіў майстар з Маладзечна Міхаіл Гайдукевіч, які 30 гадоў працаваў на вядомай Маладзечанскай фабрыцы ў якасці майстра і настройшчыка. Самы стары экспанат музея — гэта трохрадны пецярбургскі гармонік 1905 года, набыты ў пасёлку Варапаева на Пастаўшчыне. Другі па "старажытнасці" інструмент зроблены маскоўскім майстрам В. Сівовым у 1917 годзе. З найбольш арыгінальных у калекцыі музыкант вылучае падараваны яму на дзень нараджэння сябрамі з Аўстрыі выраблены там у горадзе Грац адмыслова ўпрыгожаны еўрапейскі гармонік. Кожны гармонік мае сваё аблічча, вылучаецца танальнасцю і тэмбрам гучання (усяго існуе 12 тыпаў гармонікаў).

Усе экспанаты музея М. Слізкага "жывыя" — усе гучаць...

Цяпер у музеі налічваецца 50 экспанатаў. Важна, што ўсімі імі могуць карыстацца студэнты, якіх вучыць М. Слізкі. "Чый болей іграеш на гармоніку, тым для яго лепей, тады ён будзе жыць доўга", — лічыць музыкант.

Ёсць у музеі гармонікаў і ўдарныя інструменты: бубны, барабан, тамбурыны, губны гармонік з Германіі. Калі тут праходзяць заняткі, кожны студэнт пры жаданні можа граць на любым інструменце з ліку экспанатаў. Рэпетыцыі ансамбля "Чароўныя музыкі" адбываюцца таксама ў гэтым музеі.

Мелодыі, якія цікавяць М. Слізкага, ён запісвае ад вясковых гарманістаў падчас фестываляў, конкурсаў і ўласных службовых камандзіровак. Музыкант апрацоўвае пачутае, фіксуе ў нотах, і далей пачынаецца праца з ансамблем.

Святлана ЯВАР

*НА ЗДЫМКУ: Міхаіл СЛІЗКІ з гармонікам у ансамблі.*



***Развітацца з сёлетнім тэатральным сезонам Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы вырашыў не абы-як, а прэм`ерай. На суд гледачоў была вынесена новая работа рэжысёра Барыса Уторава, спектакль "Каханне ў стылі Барока".***

# КАХАННЕ Ў СТЫЛІ КУПАЛАЎСКАГА

П`есу ўкраінскага пісьменніка Яраслава Стэльмаха, напісаную па законах класічнай камедыі палажэнняў, пераклаў на беларускую мову Аляксей Дудараў. Ён здолеў захаваць адметны ўкраінскі каларыт, але вялізныя кавалкі вершаванага тэксту, прамаўляемыя з украінскім акцэнтам, на жаль, часам падаваліся не дужа зразумелымі. Мастака Купалаўскага тэатра Барыса Герлавана ў працы над сцэнаграфіяй натхнялі, як і вынікае з назвы спектакля, барочныя матывы – так на сцэне з`явілася высачэзная калона з пухлымі амурамі, карціна ў залачонай раме на задніку, на фоне якой падыгрывае дзеі троіца мімаў, ды рухомая канструкцыя з трох плоскасцяў, таксама афармленых у выглядзе карцін з вычварным бліскучым багетам.

Сюжэтная лінія спектакля — і простая, і складаная адначасова. Простая, бо адразу ж робіцца зразумелым, што калі ў п`есе прысутнічае прыгожы малады граф, якому страшэнна не хочацца жаніцца на сасватанай бацькамі ў маленстве дзяўчыне, ды гэтая самая дзяўчына, вядома, прыгажуня і, вядома, разумніца, якая з маленства яго кахае, фінал можа толькі быць адзін – хэпі энд са шлюбам і пацалункамі.

***З 2 па 21 ліпеня ў сталіцы Расійскай Федэрацыі праходзіла выстава двух вядомых беларускіх мастакоў — жывапісца Уладзіміра ТОЎСЦІКА і скульптара Уладзіміра СЛАБОДЧЫКАВА. У савецкі час гэтыя імёны былі добра вядомыя. Яны неаднойчы прадстаўлялі Беларусь на усесаюзных выставах, а бывала што і СССР за мяжою. Сёння сітуацыя іншая. І, як ні дзіўна, сёння часам прасцей наладзіць выставу ў Германіі ці Францыі, чым у Цэнтральным доме мастака ў Маскве. Разам з тым ужо прыйшло ў мастацтва пакаленне, для якога СССР — гісторыя, а мастацтва савецкай пары — экзотыка. Выстава, якую зладзілі ў Маскве два беларускія мастакі, для кагосьці стане настальгічным успамінам, для іншага — знаёмствам з культурай новай (адроджанай) дзяржавы на карце Еўропы.***





# З 70-Х ГАДОЎ – У XXI СТАГОДДЗЕ

***Пры генетычнай сувязі з агульнасавецкай выяўленчай культурай 70—80-х гадоў творчасць Тоўсціка і Слабодчыкава — праява ўсталявання духоўнага суверэнітэту і арыентацыі на еўрапейскія культурныя каштоўнасці. На выставе работы апошніх дзесяці гадоў. Па іх бачна, як змянілася за гэты час наша краіна, яе людзі, іх памкненні і эстэтычныя арыенціры. Цікава было б і ў Мінску пабачыць расійскую выставу такога высокага ўзроўню.***

П. В.





А складаная, бо перад здачай пазіцый граф вырашае замест сябе падсунуць ніколі раней не бачанай нарачонай Оляне свайго пісара Онысыма, у разліку на тое, што дзяўчына сама адмовіцца ад такога "шчасця". Але служанка Оляны Ярыся выкрывае падман, і тут ужо надыходзіць яе чарга разыгрываць незадачлівага "жартаўніка". Спектакль безумоўна парадуе шматлікіх прыхільніц "КІМа" і акцёра Андрэя Кавальчука, бо і тут ён зноў герой-палюбоўнік. На ролю Оляны былі прызначаны дзве купалаўскія прыгажуні, добра знаёмыя нам не толькі па спектаклях тэатра, але і па рэкламе беларускай касметыкі — актрысы Вольга Фадзеева і Юлія Шпілеўская. Камічныя ролі слуг дасталіся таксама маладым, але любімым многімі акцёрам тэатра Віталю Макарэвічу, Сяргею Чубу (яны па чарзе іграюць служку Стэпана), Марыне Гардзіёнак і Святлане Анікей (Ярыся). Але ўлюбёнцам публікі ў гэтым спектаклі бясспрэчна наканавана быць Мікалаю Кучыцу. Ён іграе ролю беспрабуднага п`янчугі Онысыма, які дзякуючы графскай задуме аднойчы прачынаецца не псаром, а панам і пачынае са смакам ужывацца ў сваю новую ролю.

У цэлым спектакль нагадаў апошні наваголні праект ГРТ — "Папялушку": тыя ж самыя багатыя касцюмы, шмат спеваў-скокаў, ну і, вядома, разумніца-прыгажуня, якая перавыхоўвае легкадумнага прыгажуна. Пастаноўка атрымалася каляровай і лёгкай, як летняя сукенка — якраз па сезоне.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**





***НА ЗДЫМКАХ:** скульптуры Уладзіміра СЛАБОДЧЫКАВА — "Ладдзя роспачы", "Жанчына ідзе", "Афрадзіта"; палотны Уладзіміра ТОЎСЦІКА — "Інтэр'ер. Анфілада", "Наўздагон", "Парваная повязь часоў".*

ФЭСТЫ

# Радзівілам і не снілася

***Такога нашэсця гасцей Нясвіж не ведаў, напэўна, нават у слынныя радзівілаўскія часы. 50 тысяч турыстаў і ўдзельнікаў, 10 дэманстрацыйных пляцовак, 40 вайскова-гістарычных клубаў з 9 краін свету... Усё гэта—фэст сярэднявечнай культуры "СТАРАДАЎНІ НЯСВІЖ", што праходзіў нядаўна і быў прысвечаны 780-годдзю горада.***



Вышэйзгаданыя лічбы — безумоўна, рэкордныя для беларускага медыявальнага фестывалю, але гэтыя ж лічбы ледзь не сталіся для яго фатальнымі. Асабліва востра гэта адчулі тыя, што аказаліся заціснутымі ў велізарным людскім натоўпе на вузкіх сцежках паміж палацавым ровам і сажалкай. Мяркую, гэтым людзям было ўжо не да радасцяў бугурта (агульнай бойкі) — іх куды больш хвалявала уласная бяспека. Сама геаграфія Нясвіжскага паркавага ансамбля не была разлічана на такую колькасць наведвальнікаў — у гэтым і заключаўся галоўны пралік арганізатара фэсту Ігара Міхна. Ён шчыра прызнаецца, што не мог нават уявіць, што так добра спрацуе рэкламная кампанія ГНТ, што рамантыка "жывой гісторыі" адарве ад сталічнага свята дзесяткі тысяч мінчукоў.

шоў, выступленне каскадзёраў. Праўда, і тут не абышлося без "праколаў". Цікавы праект рэканструяванай сярэднявечнай бялізны, зроблены пад патранажам вядомай і паважанай фірмы "Serge", чамусьці перакачаваў са сціплай выставачнай залы на галоўную фестывальную сцэну. У выніку азадачаны натоўп амаль гадзіну назіраў за дэфіле манекеншчыц у сучаснай бялізне (сярэднявечная частка калекцыі аказалася невялікай і куды больш няві́ннай). Але цудоўны феерверк і завадны канцэрт-дыскатэка такіх вядомых гуртоў, як айчынны "Стары Ольса", польскі "Open folk", расійскія "Drolls" і "Laterna magika", прымусілі забыць амаль усе негатыўныя ўражанні першага дня.

Першае, што мы ўбачылі, выглянуўшы наступнай раніцай з клубнага намёта, былі рыцарскі стан мінскай Уніі "Меч і крумкач" і рыжскага "Экскалібура". Так мы аказаліся "афрыканцамі" і сталі асноўнымі ахоўнікамі форта. Войска ж "Еўропы" было ў тры разы большым і падмацоўвалася чэшскай выдатна рэканструяванай артылерыяй. "Еўрапейцы" на трох плытах без страт пераадолелі водную перашкоду. І закіпеў бой: спачатку паміж завадатарамі абедзвюх "партый", а потым і паміж асноўнымі сіламі. Але штурмуючым прыйшлося няпроста: брама крэпасці ніяк не хацела здавацца захопніцкаму тарану, ды і мы, дзяўчаты, не гублялі часу, кідаючы ў "ворагаў" камяні і бярвенні (вядома, каб ні ў каго незнарок не трапіць). Да, вось табе і чароўная дама, кволае стварэнне! На нейкі момант усё гэта робіцца насамрэч рэальным. Толькі тады пачынаеш разумець: гэтая гульня для сярэднявечнага чалавека была жыццём, суровым і небяспечным. Тады рыцар, пераможаны варожымі алебардамі, мог і не падняцца зноў, а забраныя ў палон дзяўчаты — ніколі не вярнуць страчанай свабоды. І сапраўды адчуваеш павагу да сваіх продкаў, якія выжылі ў тыя складаныя часы і падаравалі жыццё нам, сваім нашчадкам, якія зараз так сумуюць па рамантыцы і прыгодах даўно мінулых дзён.

Завяршыўся штурм, адпаведна сцэнарыю, перамогай "Еўропы". Каб забыцца на ўласнае "паражэнне", мы, былыя "афрыканцы", разам з натапіўшым прагу вя-



Першы фестывальны дзень парадаваў сонечным гарачым надвор`ем (мясцовы гандаль, напэўна, у гэты дзень перавыканаў гадавую норму продажу напояў і марожанага), але здзівіў адсутнасцю адзінага "стрыжня". Па парку, дзе павінна блукаць загадкавая Чорная панна, былі раскіданы дэманстрацыйныя пляцоўкі: сучасныя "вікінгі" паказвалі свае гульні і забавы, дзяўчаты з гурта "Майстат" вучылі народ "бранлям" і "алемандам", прадстаўнікі аб`яднання "Гісторыя медыка" (у яго склад увайшлі хворыя на дыябет людзі з Мінска, Стаўбцоў, Наваполацка) тлумачылі асаблівасці сярэднявечнай дыябетычнай кухні, браслаўскія майстры вучылі карыстацца "пісалам" і васковымі дошчачкамі для пісьма. Тыя турысты, што не шкадавалі грошай, фатаграфаваліся ў сярэднявечных строях, каталіся на конях у прыгожых папонах. Самыя ўдачлівыя ўбачылі выдатныя чэшскія паказальныя баі, турнір лучнікаў на палацавым падворку ды той самы небяспечны бугурт "Штурм замкавага бастыёна" — але на гэтым вайсковыя падзеі дня і завяршыліся. Маленькія радасці сярэднявечнага побыту не змаглі замяніць маштабнай важнай дзеі, паглядзець якую і прыехала такое мноства людзей. Нават апошняя надзея паглядзець рэпетыцыю воднай бітвы "Узяцце Гібралтара" — і тая не спраўдзілася з прычыны, мякка кажучы, "некандыцыйнага" стану большасці ваенных камандзіраў. Кампенсаваць "ніякасць" фестывальнага старту мусіла ўрачыстае адкрыццё "Старадаўняга Нясвіжа" на ратушнай плошчы, на якое прыбылі афіцыйныя асобы з Міністэрства культуры, Мінаблвыканкама, Нясвіжскага райвыканкама. На сцэне ля аднаўленай ратушы адбылося прадстаўленне клубаў-удзельнікаў, факельнае шэсце, агнявое

лі нізкія хмары самага грознага колеру. У хуткім часе на горад і турыстаў, што ўжо пацягнуліся ў цэнтр за раніцняй кавай, абрынуўся лівень, які пасля перайшоў у не надта моцны, але ўпарты дождж. Першую палову дня нам прыйшлося бавіць у намёце, слухаючы ўласнага менестрэля з гітарай. Нарэшце, калі яго голас ужо пачынаў "садзіцца", выглянула сонца і ...фестываль завіраваў з новай сілай. Стала прасторней на алеях парку — многія расчараваныя ўчарашнім з`ехалі. Затое астатнія атрымалі-такі тое свята, за якім прыехалі. На мокрай сцэне зайграў "Стары Ольса", і сярод лужын заскакалі прамокшыя рэканструктары ўперамежку з турыстамі. Многія, спытаўшы ў больш дасведчаных суседзяў назоў групы (якую, дарэчы, ніхто не прадставіў), тут жа кіраваліся да суседніх латкоў, каб набыць касеты і кампакты гурта. Зноў разгарэўся агонь пад катламі з сярэднявечнымі стравамі, расклалі свой тавар гандляры, а на самай дальняй пляцоўцы конныя наладзілі паказ сцэнак з рыцарскіх часоў. Ніхто ўжо не глядзеў у развешаныя па горадзе лісты з фестывальнай праграмай, бо дождж змяшаў усе планы. Цяжкаўзброеныя латнікі на "традыцыйны" латны турнір не пайшлі — ашчаджалі гадамі майстраваныя даспехі.

Але гледачоў чакала куды больш яркае відовішча — водная бітва "Узяцце Гібралтара", аднаўленне старой забавы князёў Радзівілаў. Паводле яе задумы, дэсант "Еўропы" павінен быў пераадолець "Гібралтар" і штурмам узяць грозную фартэцыю "Афрыкі". Гэтая драўляная крэпасць была спецыяльна пабудавана некалькімі майстрамі-энтузіястамі і атрымалася надзвычай непрыступнай. Дарэчы, менавіта пад яе аховай размясціўся асоблізнага пабоішча натоўпам накіраваліся на ратушную плошчу, дзе пачынаўся заключны канцэрт з удзелам ужо добра знаёмых медыявальных музычных гуртоў. А ў вялікім рыцарскім стане ў гэты ж час пры святле паходняў адбываўся абяцаны латны турнір. Праўда, ён атрымаўся нядоўгім — на рысталішча выйшлі толькі шасцёра байцоў. Асабліва жорсткага бою мы не пабачылі, хоць новыя правілы і дазвалялі штуршкі ды падсечкі, бы на баксёрскім рынгу.

Але самую прыгожую і самую, на мой погляд, запамінальную частку сярэднявечнага свята убачылі толькі нешматлікія прыхаджане Фарнага касцёла. Раніцай наступнага дня тут адбылося ўрачыстае пасвячэнне ў рыцары двух ваяроў, адзін з якіх — пераможца турніра ў латвійскім Цэсісе, пра які наша газета пісала раней. Цырымонія, якой кіраваў ксёндз Фарнага касцёла, прайшла паводле складанага і прыгожага рытуала, напрыканцы якога новаароджаныя рыцары прынеслі абеты, а іх гербы былі прадэманстраваны ўсім прысутным. (Дарэчы, і сам горад нядаўна атрымаў новы герб, зацверджаны ў геральдычнай службе краіны.)

Рыцарскіх дынастый у нас, на жаль, не захавалася, таму каб ганаравацца "сэрам", нашаму сучасніку прыходзіцца гэты высокі статус атрымоўваць уласнымі заслугамі — так, як гэта рабілі самыя першыя рыцары напачатку Сярэднявечча. З кожным годам усё большая колькасць людзей шукае сябе ў мінулым — сведкам таму стаў сёлетні "Старадаўні Нясвіж". Тут мары становяцца рэальнасцю — новыя рыцары сыходзяць з храмавых прыступкаў, рыцары XXI стагоддзя.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

## 11-12 ліпеня
***ў Калінкавіцкім раёне прайшоў Усебеларускі фэст гумару "Аўцюкі 2003"***

Гаворыць намеснік старшыні аргкамітэта фэсту, пісьменнік Уладзімір ЛІПСКІ:

— Канечне ж, яны, аўцюкоўцы, не адны такія ў Беларусі. Але ж і як адрозніваюцца ад астатніх! Дзе-небудзь пачуўшы іх размову, спачатку можна падумаць: "Во, балбатуны нейкія. Ім бы толькі адзін аднаго перабрэхваць". Але ж вы ўслухайцеся ў іх мову. На самай жа справе гэта не простая "балбатня". Як яны гуляюць словамі! Для іх размова — гэта іх тэатр, у якім яны і акцёры, і гледачы аднachасова, у якім яны могуць і камедыю разыграць, і трагедыю адначасова. І паплачуць, і пасмяюцца самі з сябе. І гэта проста здорава! Людзям жа ж так патрэбна разрадка, нейкая адтуліна ў цяжкай жыццёвай паўсядзённасці. Аўцюкоўцы ж самі з свaёй "балбатні" смяюцца: "Ты можаш мяне не слухаць, але брахаць не мяшай!"

Сваю новую кніжку пра аўцюкоўцаў я назваў "Пра каласкоў і калінак, якія чаруюць і жартуюць". Думаецца, што ў такім класічным адзінстве камічнага і трагічнага і трэба шукаць вытокі аўцюкоўскага гумару. Гэта як "Памірай, а жыта сей", дзе народнай мудрасці нават больш, чым проста гумару. Смех — гэта іх лекі і ратаванне.












# АЎЦЮКІ ІЗНОЎ СМЯЮЦЦА

І не такія простыя, як можа спачатку здацца, гэтыя аўцюкоўцы. Памятаю, як мяне папярэджваў вадзіцель з мясцовых, калі я першы раз ехаў у Аўцюкі: "З аўцюкоўцамі заўсёды трэба быць пільным, яны ў нас такія, што калі не зразумеюць вас, калі не адчуюць, што вы да іх з добрым намерам, дык не толькі цвёрдым словам адбрыюць — адлупцаваць могуць". Але ж я ехаў да іх з добрым намерам, і людзі адчулі гэта. І як вынік нашых з імі разам добрых намераў — гэта ўсебеларускі фестываль гумару, што ўжо чацвёрты раз прайшоў у Аўцюках. Цяжка, канечне, у сённяшні час праводзіць такія фестывалі. На гэты раз, напрыклад, да апошняга не было вядома, ці зможам мы адолець задуманае. Але, дзякуючы падтрымцы кіраўніка вобласці, раённаму кіраўніцтву і, у першую чаргу, саміх маіх любых аўцюкоўцаў, мы гэта зрабілі. Дарэчы, у цяжкасцях, якія прыходзіцца пераадольваць, ёсць і здаровы сэнс. Напрыклад, у гэтым годзе вядучым фестывалю быў не запрошаны з міністэрства чалавек, а свой, мясцовы. Пагадзіцеся, што гаспадаром свята павінен быць свой, мясцовы кіраўнік. Ды і музей гумару, аб якім мы марылі на гэтым фестывалі, патрэбны, мне здаецца, больш самім аўцюкоўцам. І гэты музей, магчыма, у выглядзе карчмы пры дарозе, абавязкова будзе. Будзе, як ёсць ужо помнік Каласку і Калінцы, як сам фестываль. Пакуль аўцюкоўцы смяюцца — у нас усё будзе!

Павел КАРПОВІЧ
Фота аўтара.
















# КАРЫДА ПА-ЗААЗЕРСКУ

Уладзімір ГЛУШАКОЎ



Усё пачалося з таго, што на пачатку 90-х, калі ўсе прагна наталялі смагу доўгачаканымі "свабодамі", усёдазволенасцю і пад шумок аб дэмакратычных дабротах прыцягвалі тое-сёе На ўласныя падворкі з агульнай маёмасці, у саўгасе "Заазерскі", паблізу Давыд-Гарадка, надумалі выбракаваць племяннога бугая Гвідона... Вымусіла сітуацыя: напаўгалодны, пачаў, халера, кідацца на людзей, асабліва неабыякава ставіўся да жаноцкага полу. Парваў два ці тры ланцугі, выкупаў у накапляльніку з жыжай дзвюх перапужаных да смерці даглядчыц... Таксама, відаць, адчуў п'янае паветра дэмакратычных пераўтварэнняў — ажно ноздры раздзімаліся, дыбіўся загрывак ды хадуном хадзілі гладкія бакі, што атласна ільсніліся пры яркім сонечным святле...

А тут, пасля падзення "жалезнай заслоны", сімвалічна ўвасобленай тэлебачаннем у раскурочанай натоўпам на сувенірныя кавалкі Берлінскай сцяне, завітала ў "Заазерскі" дэлегацыя нямецкіх фермераў. Ну а там, на месцы, наладзілі традыцыйнае мерапрыемства — нешта накшталт "семінара па абмену вопытам", які набіў усім аскоміну яшчэ ў савецкі час. Карацей, "абмен вопытам" — некалькі вандровак-экскурсій па тэрыторыі гаспадаркі, адчувальна кранутай плямінамі нядбайнасці і запусцення, агучаных сухім каментарам кіраўніцтва, хваравіта адбіўся і на без таго аскетычных, бяскроўных тварах сухарлявых немцаў ва уніформе, надаўшы ім выраз людзей, прысутных на пахаванні незразумела каго...

Трэба было тэрмінова выпраўляць становішча, каб дарэшты не зняславіць сябе перад нямецкімі калегамі. Правал дзелавой часткі сустрэчы вырашылі з ліхвой кампенсаваць "неафіцыйнай", на якую спрадвеку ў тутэйшых месцах былі зухі; карацей, ненавісны "застой" разбавіць нацыянальным застоллем, ды не ў 40, а ў 90 абаротаў — з "першаком", каб ад таго праклятага "застою", што атрымалі ў спадчыну, пэтпаху не засталося!

З закуссю таксама вырашылі не разменьвацца на дробязі, абмяжоўвацца, як звычайна ў такіх выпадках, бараном або свінчом... Своечасова ўзгадалі пра напаўгалоднага племяннога бугая, у якога на глебе так званых дэмакратычных пераўтварэнняў у грамадстве таксама, як ні дзіўна, сур'ёзна парушылася псіхіка...

— Ну, добра. Валі Гвідона... пакуль ён нас не паваліў, — коратка распарадзіўся дырэктар, наўмысна не гледзячы ў вочы маладому круглатвараму брыгадзіру-мацаку з вогненна-чырвонай шавялюрай, які нават у лёгкай кашулі знешне нагадваў сярэдніх памераў бурага мядзведзя. — Іншага выпадку пазбавіцца ад яго ў нас не будзе... — Ён узняў на хвіліну вочы ў столь, быццам раячыся з кімсьці там недасягальным для простых смяротных і, падобна, атрымаўшы дазвол, рашуча хітнуў галавой, адначасова чыркнуўшы ў паветра рукой. — Дзейнічай! Толькі, глядзі, акуратна там...

І брыгадзір — а звалі яго Харытон Прыгалуба — паволі накіраваўся з канторы ў бок цаглянай адрыны, дзе — ён ведаў, куды ісці — яго чакаў прывязаны ланцугом у стойле незадаволены нішчымным існаваннем прыгажун Гвідон, якому хвіліну назад быў вынесены смяротны прысуд.

Харытон яшчэ не зусім уяўляў, як і што ён будзе рабіць у бліжэйшыя паўгадзіны. Чамусьці ў памяці ўсплыў даўні эпізод з армейскага жыцця, акрэсліўся ў выразных, дакладных дэталях, якія, як ні дзіўна, не паспелі паблякнуць...

Здарылася так, што на другім месяцы службы курсант танкавай "вучэбкі" не аддаў "чэсць" "дзеду" — стараслужачаму сяржанту. "Дзед", канапаты, драбнаватай камплекцыі хлапчына, абураны такой непавагай з боку "салабона", загадаў таму ўзлезці на тумбачку днявальнага і ўрачыста пракукарэкаць гэтулькі разоў, колькі яму, "дзядулю", дзён засталося да жаданага дэмбелю. І калі курсант адмовіўся лезці на тумбачку, дазволенай яму сяржанту, уладай, зазваў непаслушэнца ва ўмывальны пакой. І не паспеў навабранец азірнуцца ў асляпляльна-белых сценах, выкладзеных бліскучай пліткай у кроплях вільгаці, як атрымаў аплявуху. Слаба пляснуўшы сухой, дробнай далонькай "салагу" па моцнай, бы маладая рэпа, шчацэ, "дзед" нахабна ўтаропіўся — знізу ўверх — на бяспраўнага ў яго становішчы першагодка. Аднак на гэты раз "дзед" нядоўга лавіў кайф...

Курсант, здзіўлена мацнуўшы сябе за пачырванелую (хутчэй, ад сораму!) шчаку, нечакана лёгка падхапіў "дзеда" ўпоперак тулава і, заўважыўшы ля тыльнай сцяны бетаніраваны жолаб пад нахілам — каб пругкі, успенены салдацкі струмень імгненна дасягаў каналізацыйнага металічнага сіта — на хуткасці пусціў таго па слізкім ад салдацкіх смаркачоў і гарачага, ліпучага, як напалм, бялёсага накіпу ад вымушанага ўстрымання бетонным карыце — галавой уперад...

Пасля адбою дзяжурны па роце канфідэнцыяльна паведаміў "абарзеўшаму салагу", узняўшаму руку на "дзеда" (які жах!), што ён павінен неадкладна з'явіцца ў капцёрку. Як потым высвілася — на "старыкоўскі суд". Праігнараваць запрашэнне — наклікаць на сябе, а заадно і на астатніх "маладых" яшчэ большую бяду.

Апошняя акалічнасць была даведзена апальнаму саслужыўцу дзяжурным, ледзь не па сакрэце, у якасці карыснай парады. Магчыма, гэта і вырашыла далейшае развіццё падзей. Зрэшты, падзеі разгортваліся па сцэнару, які здаўна бытуе ў вайсковай казарме. Вось і цяпер, не паспеў першагодак пераступіць парожак цеснай, нашпігавай да столі "дэмбельскімі" чамаданамі, мундзірамі, кіпамі ануч, бялізны і ўсялякага іншага шмацця капцёркі, як яго адразу абступілі "дзяды" ў белых нацельных кашулях і ў брызентавых салдацкіх шлёпанцах на босую нагу... Пяцёра ці шасцёра — не паспеў палічыць. Нюх непрыемна казытнуў складаны пах тытуню і таннага кіслага віна. І пасля таго, як яму было агучана сіпатым брыдкім голасам абвінавачанне — замах на "кодэкс старыкоўскай чэсці", за што адпаведна абвінавачаны неадкладна павінен быць падвергнуты экзекуцыі — 50 ударам салдацкім рамянём, на яго быццам найшло лёгкае зацьменне, а калі ў вачах зноў праяснілася, ён убачыў, што хвілінай таму важныя, ваяўнічыя "дзяды" нібыта паснулыя пацукі пасля дэзінфекцыі, у самых неверагодных позах мірна ляжаць вакол яго. Нават шкада зрабілася такіх бездапаможных у гэтую хвіліну "дзядуляў"...

Таму, перш чым пакінуць капцёрку, навабранец клапатліва паклаў іх, як бярвенцы, у адзін радок, не забыўшы таксама падсунуць пад галаву кожнаму па мяккай падушачцы, праўда, без навалачкі...

...Што было далей – не ўяўляе цікавасці, бо нічога не было, аб чым Прыгалуба менавіта цяпер нават пашкадаваў, паколькі суровая рэчаіснасць адрывала ад прыемных успамінаў. Так, гвалт у любых яго праявах — і раней, і цяпер — не пераносіў на дух; вось і сённяшні загад, няхай сабе і начальства, ён успрыняў стрымана, неадназначна, калі не сказаць больш...

Тым не менш, перад ім была пастаўлена задача, якая, ён ведаў, так ці інакш будзе ім выканана. Дагэтуль, навошта ўтойваць, даводзілася пластаваць безліч авечак, парсюкоў... Цялятам — на вясу — перахопліваў гарляк вострым сечкаром*, але каб заваліць племяннога быка... Ды якога! Шаленца... Такога не тое што ў думках не ўзнікала — нават у самым адчайным сне не магло прысніцца!

•

Пасля кароткага роздуму, палічыўшы за лепшае, як ужо бывала не раз, ні з кім не раіцца, прыхапіў з дому доўгую, метраў пад трыццаць, вяроўчыну, сунуў за рэмень зачахлёны паляўнічы нож і, нічога не сказаўшы нават жонцы, напрамкі папраставаў да саўгаснага двара.

Замацаваўшы адзін канец вяроўкі за абшарпаны ствол старой яблыні ля ўскраіны загарадкі, другі наматаў, звесіўшыся з крокваў, на пакручастыя, у акамянелых нарастах, рогі Гвідона. Толькі тады рызыкнуў разматаць ланцуг і спусціць бугая з прывязі... Адчыніць стойла не паспеў — адчуўшы волю, Гвідон сваім магутным тулавам вынес прасла, як нейкую лядашчую тэатральную дэкарацыю, і, ваяўніча равучы, стрымгалоў — чорнай тарпедай — панёсся па вузкім дашчатым пралёце на двор... Раскідваючы капытамі гразь у загарадцы і раз'юшана касавурачыся налітымі крывёй вачамі па баках, Гвідон не знайшоў на гэты раз, на каго нагнаць страху, таму скіраваў усю сваю ярасць на старую яблыню, якая — адна — стаяла на шляху, стрымліваючы яго магутныя рыўкі ў неадольным памкненні вырвацца нарэшце з-за абрыдлай загарадкі на прастору.

У выніку сляпая ад ярасці атака Гвідона ўзнікшай на яго шляху перашкоды каштавала яму аднаго зламанага рога — другім бугай расчапіў пакручаста-валакністую плоць ствала.

Усю гэтую карціну, дранцвеючы ад страху, назіраў Прыгалуба, уладкаваўшыся на ніжнім паўабламаным суку і аберуч трымаючыся за голле, каб, крый Божа, не зваліцца на раз'юшаную жывёліну.

Тое, што Гвідон сам сябе загнаў у пастку, намнога спрашчала брыгадзіру задачу. Апошняму заставалася толькі намацаць унізе вяроўчыну, і, наматаўшы яе на пругкую тоўстую галіну, так, каб галава няшчаснага бугая, задзёртая ўверх засталася нерухома зафіксаванай у такім становішчы — зручней не прыдумаеш, без ценю нейкага страху спусціцца на зямлю. Побач з грозным і... бездапаможным цяпер Гвідонам.

Потым здарылася недарэчнае. Прыгалуба паласнуў затупленым, вышчарбленым ад неахайнага карыстання лязом паляўнічага нажа Гвідона па напятым, дрыготкім гарляку. Але толькі зрабіў рваны надрэз... Бугай, адчуўшы блізкі канец, капыціў пярэднімі нагамі зямлю і ўтробна роў, так, што з вачэй небаракі, захітнутых мутнай плёнкай роспачы і жаху, выступілі крывавыя слёзы...

Дзіка мацюкнуўшыся (сам у гэты момант уразліва падобны на зняважанага бугая!) і адкінуўшы ўбок непатрэбную жалезку, Прыгалуба збегаў на стайню за прыхаваным у патайным месцы сечкаром і, вярнуўшыся да спакутаванай жывёліны, давёў справу да канца. Галіна спружыніла — адлучаная ад тулава бугаіная галава сіганула ўгару, схаваўшыся ў густой кроне, закалыханая зялёнымі хвалямі патрывожнай лістоты.

•

Астатняе, як гаворыцца, было справай тэхнікі, паколькі разбіраць тушы Прыгалуба з некалькіх гадоў налаўчыўся адмыслова. Пра бугаіную галаву, праўда, успомнілі недзе ажно на трэці дзень, калі нямецкія фермеры, якія не скардзіліся на адсутнасць апетыту, амаль прыкончылі тушу пад "пяршак" вышэйшага гатунку. Успомнілі выпадкова, калі адзін з гасцей адышоў пад знявечаную яблыню справіць малую патрэбу. Зверху на поле яго капелюша нешта падазрона капнула. Задзёршы галаву ў яснае, без воблачка ліпеньскае неба, той у непаразуменні пацiснуў плячыма і вымавіў адзіную фразу: "По-русски, это, кажется, называется "слепой дождь"? Загадочная страна..."

Што немец меў на ўвазе пад "Загадочной страной", Бог ведае!..

Прыгалуба, прынамсі, палічыў залішнім нешта тлумачыць здзіўленаму немцу і, выбраўшы момант, калі паблізу нікога не было, ускараскаўся на яблыню і зрабіў так, каб "сляпы дождж" болей не абуджаў у гасцей розныя сумнiўныя думкі наконт "Загадочной страны", што, урэшце, не спрыяе станоўчым эмоцыям і нармальнай рабоце страўніка, што для немца, у адрозненне ад таго ж рускага, немалаважна.

Па славянскай завядзёнцы, легалізаванай ці не ў савецкі час, гасцей, тым болей замежных, без падарунка ў дарогу выпраўляць няёмка... Думалі-думалі, але ў цяжкія, бы вядзёрныя чыгуны, галовы нешта нічога путнага не прыхозіла. Ад бугая, акрамя капытоў і вантробаў, нічога не засталося; "першаку" — таксама на дне бідона ледзь чутна плёскалася...

Выручылі здагадлівыя немцы: папрасілі сычуг у якасці сувеніра (меўся на ўвазе нафаршыраваны бычыны страўнік).

Прыгалуба, атрымаўшы чарговае даручэнне, не мог уцяміць сэнс незнаёмага яму кніжнага слоўца, якое ён атаясамляў з больш звыклым для вясковага чалавека паняццем — "мужчынскім гонарам"...

Карацей, доўга не разважаючы, ён забурболіў у вядзёрны чыгун унушальных памераў, ядры племяннога бугая-асемянняльніка, — апошняе, што засталося ад слаўнага Гвідона... І, распаліўшы печ бярозавымі дровамі, паставіў чыгун на зыркае вуголле, каб у бярозавым духу яйцы ўвамлелі.

Немцы, да немалога здзіўлення гаспадароў пад апошнія кроплі "першаку", паспытаўшы мясцовую "далікатэсную" страву, былі ў неапісальным захапленні ад пачастунку, ухваліўшы напрыканцы гаспадароў, якія, бач, нягледзячы ні на якія складанасці лёсу, умеюць, як ніхто, здзівіць госця, нават самага прывярэду, вось такой непрадказальна-чароўнай, неверагодна-смачнай стравай-сюрпрызам.

Адным словам, майстры. Малайцы. Знайшлі выйсце.



*Сячкар (аўт.) — абрэзак касы, прыстасаваны пад нож.

# КЫРГЫСТАН І ЭПАС «МАНАС»

АСКАР АКАЕЎ



КЫРГЫЗСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ І НАРОДНЫ ЭПАС «МАНАС»

У выдавецтве "Энцыклапедыя" выйшла кніга Прэзідэнта Кыргызскай Рэспублікі Аскара Акаева "Кыргызская дзяржаўнасць і народны эпас "Манас" у перакладзе на беларускую мову. Празаічны тэкст з рускай пераклала Ірына Качаткова, пераклады вершаў зрабіў Міхась Пазнякоў. Прэзентацыя выдання прайшла 27 чэрвеня ў Нацыянальным прэс-цэнтры. На ёй пра кнігу расказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кыргызскай Рэспублікі ў РБ Рысбек Качкееў. Пасол зазначыў, што над кнігай Прэзідэнт яго краіны працаваў некалькі гадоў. А таксама, што гэтае выданне раскрывае гістарычны лёс кіргізскага народа, які шмат стагоддзяў змагаўся за права мець сваю ўласную дзяржаўнасць.

Кніга багата ілюстравана, напісана зразумелай, даходлівай мовай. Аўтар выкарыстаў цікавыя архіўныя матэрыялы, знойдзеныя ім у замежжы, — у КНР, Турцыі, Іране, Манголіі і іншых краінах свету.

Хочацца думаць, што ў Беларусі гэтае выданне знойдзе шмат чытачоў, якіх цікавіць гісторыя Кыргызстана. Дарэчы, у мінулым годзе ў беларускім часопісе "Всемирная литература" былі надрукаваны на рускай мове фрагменты з гэтай кнігі.

С. Я.

# 750-ГОДДЗЕ КАРАНАЦЫІ МІНДОЎГА

Шэраг урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай гістарычнай падзеі, распачаўся "круглым сталом" у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны напрыканцы чэрвеня. У пасяджэнні прынялі ўдзел навукоўцы, пісьменнікі, грамадскія дзеячы. Выступалі прафесар А. Грыцкевіч, акадэмік НАН Беларусі М. Касцюк, краязнаўца З. Сіцька, доктар гістарычных навук Г. Штыхаў, кандыдат філалагічных навук А. Жлутка, доктар філасофскіх навук У. Конан, пісьменнік, аўтар рамана пра Міндоўга "Кліч роднага звона" Г. Далідовіч, намеснік старшыні Аргкамітэта па святкаванні 750-х угодкаў каранацыі М. Купава і інш. Яны гаварылі пра асобу Міндоўга, яго жыццёвы шлях, палітычную дзейнасць і яе значэнне ў станаўленні дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае. Прысутныя пазнаёміліся з кнігай Ф. Гурэвіч "Летописный Новгородок (Старажытны Наваградак") (Санкт-Пецярбург—Навагрудак).

Тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, чакалі яшчэ наступныя юбілейныя імпрэзы: 5 ліпеня ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася выстава "Каранацыя Міндоўга", у той жа дзень у Доме літаратара адбылася ўрачыстая вечарына. Імша ў гонар каранацыі была адслужана ў Наваградскім фарным касцёле 6 ліпеня. А ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны 9 ліпеня адкрылася дзіцячая мастацкая выстава "Міндоўг". 12 ж ліпеня святкаванне было перанесена ў Наваградак, дзе ўсе, хто пажадаў, змаглі наведаць замчышча, гару Міндоўга і музеі горада. 750-годдзе каранацыі Міндоўга адбылося.

С. Я.



# АСЦЕРАГАЙМАСЯ ПАМЫЛАК

Да мастацкага твора мы неаднойчы звяртаемся з рознаю мэтай. Найперш — дзеля задавальнення духоўных, эстэтычных патрэб. Выкарыстоўваем як сродак выхавання, як адну з асноўных крыніц вывучэння беларускай мовы, як аб'ект яе навуковага даследавання. Таму гэтак важна, неабходна, каб мастацкі тэкст меў высокі літаратурны ўзровень і на этапе першапублікацыі, і не зніжаў яго пры перавыданнях, калі ўжо шмат залежыць не толькі ад аўтара (яго можа не быць на гэтым свеце), але і ад іншых людзей, што рыхтуюць і ажыццяўляюць выданне.

Умяшанне (пазітыўнае і негатыўнае) у аўтарскі тэкст пачынаецца падчас рэдагавання яго і чытання карэктарамі, працягваецца пры наборы і друкаванні, калі вынікаюць апіскі, зыначанні, пропускі — нярэдка з тэхнічных прычын.

Тэкст адлюстроўвае розную глыбіню пранікнення яго аўтара ў лексічныя пласты нацыянальнай мовы, розную шырыню ахопу і выкарыстання яе граматычных сродкаў і стылістычных магчымасцяў. На жаль, новыя пакаленні філолагаў, журналістаў, якія прыходзяць на працу ў рэдакцыі і выдавецтвы, прыкметна аддаляюцца ад вытокаў і каранёў беларускай літаратурнай мовы.

У тэкстах класічных, хрэстаматыйных некаторыя моўныя элементы сёння адышлі ў пасіўны запас, не ёсць агульнаўжывальнымі. Гэтыя тэксты час ад часу перавыдаюцца, і таму існуе небяспека скажэння аўтарскіх слоў і сэнсаў. У "Поўным зборы твораў у дзевяці тамах" Янкі Купалы (т. 7, Мн., 2001) змешчана п'еса "Тутэйшыя". Звернем увагу на дзве рэплікі.

**Янка.** Ці ж першыня для Менску гэтыя трывожныя мінуты? Час было б, цётачка, і прывыкнуць да іх.

**Гануля.** Ды яно ж так. Але сваім чынам **да дзела** ўсё гэта, ах, як **да дзела**!

Аўтар ужыў дзеяслоў *дадзела*, што значыць "абрыдзела, надакучыла". Карэктару ж ці рэдактару ўбачыліся (пачуліся) у ім два словы: прыназоўнік *да* і назоўнік *дзела*. У адпаведнасці з такім успрыманнем, без уліку сэнсу сказаў і было перайначана слова. Дарэчы, дзеяслоў *дадзець* сустракаецца ў творах іншых пісьменніках (Н. Арсеннева, Л. Калюга), яго змяшчае слоўнік І. Насовіча.

Хто займаецца выдавецкай працай, ведае, якія часам цяжкавырашальныя пытанні, праблемы паўстаюць праз няўважлівасць — ці то саміх аўтараў, ці то карэктараў і рэдактараў. Апошнія колісь не заўважылі памылкі ці зрабілі яе самі ў тэксце пры жывым яшчэ аўтару... А цяпер што рабіць з такімі "карэктызмамі" пры перавыданні твора? Асабліва калі ўлічыць, што ён можа вывучацца ў школе, у ВНУ. Вось пачатак верша Максіма Танка "На дзяды":

*Перад дзесятай стравай раптам*
*Нясуць яшчэ гароху латку...*

*І мы даўжэй за ўсіх, пад поўнач,*
*Ім частаваліся.*
*Ты помніш,*
*Пакуль* ***на дне*** *гарачай* ***латцы***
*Не абняліся нашы пальцы*
*І цябе маці не пазвала.*

Рэдактар і карэктар мусілі, абавязаны былі заўважыць, не прапусціць граматычную нязвязанасць падкрэсленых намі слоў і пры неабходнасці звярнуцца да аўтара. Радок мог бы гучаць:" Пакуль на дне ў гарачай латцы" або "Пакуль на дне гарачай латкі".

Цытаваны верш падаецца паводле выдання: Максім Танк. Выбранае. Мн., 1993. Але і ў ранейшай прыжыццёвай кнізе паэта "Збор калосся" (Мн., 1989) ёсць гэтая моўная хіба. Таму недагляд, як кажуць, двойчы недаравальны.

Недакладнае разуменне слова, яго ролі ў сказе нярэдка бывае прычынай пунктуацыйных памылак.

Рускае *конечно* ў ролі пабочнага слова і сцвярджальнай часціцы перакладаецца: *вядома, зразумела, безумоўна, а як жа*. Звернем увагу, што ў "Руска-беларускім слоўніку" (Мн., 1982), на які тут спасылаемся, сярод беларускіх адпаведнікаў рускага *конечно* не прыводзяцца *канешне і канечне*. Апошнія падаюцца ў ТСБМ і ў функцыі сцвярджальнай часціцы тлумачацца: *так, зразумела, вядома*.

Варта асобна напомніць: словы *канешне* і *канечне*, паводле ТСБМ, ужываюцца таксама як прыслоўе са значэннем "абавязкова, што б там ні было". Напрыклад: *Яны павінны* ***канешне*** *знайсці партызанаў; Не* ***канечне*** *стаяць над ёю крукам*.

Згаданае значэнне слоў *канешне, канечне* радзей выкарыстоўваецца ў сучаснай моўнай практыцы, і таму гэтыя словы не заўсёды ўспрымаюцца адэкватна, пра што могуць сведчыць пунктуацыйныя памылкі. Прачытаем урывачак з аповесці Лукаша Калюгі "Нядоля Заблоцкіх":

"Усякі раз [настаўнік] не забываўся сказаць:

— Вам яго, **канечне**, трэба аддаць у навуку. Проста грэх будзе, калі вы яго пры сабе будзеце трымаць" (Калюга Л. Творы. Мн., 1992).

Тут слова *канечне* выступае прыслоўем са значэннем "абавязкова" (на гэта паказвае і шырэйшы кантэкст) і выдзяляць яго коскамі няма падстаў.

Прыклад яшчэ раз даводзіць, што карэктар і рэдактар, сустрэўшы малавядомае ці незразумелае слова, не мае лічыць для сябе ганьбай не проста зазірнуць у слоўнік або іншы даведнік, а ўважліва ўчытацца, каб правільна знайсці і акрэсліць патрэбнае паводле тэксту значэнне (якіх у слове пераважна бывае не адно, а некалькі).

Вядома, жывая мова сваім лексічным і фразеалагічным складам багацейшая за самыя поўныя друкаваныя слоўнікі. Так, апрача вышэй пералічаных слоў, што выступаюць у ролі сцвярджальнай часціцы, у беларускай мове ёсць яшчэ *пэўна, пэўна ж, пэўна што* (ужываюцца таксама і як пабочныя словы, і як прыслоўі). Аднак гэтая іх функцыя — быць сцвярджальнымі часціцамі — зусім не адзначаецца ў слоўніках і граматыках.

Прывядзем некалькі выпісак з літаратурных тэкстаў.

[Міхал:] Зямля не будзе нас чакаць. // Не запусцее, не згуляе! // — **А пэўна**, — дзядзька пацвярджае (Я. Колас).

# СПОВЕДЗЬ

раніла ні разочку. Вярнуўся дахаты. Хадоска, па ім плачучы, здаецца, яшчэ страшнейшай стала, згорбілася, супраць яго — як баба старая. А ён — статны, прыгожы. І навокал — адны ўдовы-салдаткі, кожная мужчынскай ласкі прагне...

Я не ведаю, чаму з усіх ён мяне выбраў. Я маладая таксама прыгожая была. А мо каханне маё ў вачах гарэла... Словам, сталі мы з ім употайкі сустракацца... Не глядзі ты на мяне так, дзіця, ты ж сама прасіла праўду!

Шыла ў мяшку не ўтоіш, а ў вёсцы тым больш. Хутка прыйшла да мяне Хадоска са слязамі: "Аддай, — кажа, — майго Рыгорку. Што хочаш вазьмі — хлеба табе дам, грошай, але адступіся. Не жыць мне без яго..." А мне што, я маладая, каханая, шчаслівая. Сыты галоднаму не спагадае... Пасмяялася ёй у твар, кажу: "Ты на сябе ў люстэрка паглядзі, ці ж ты яму пара?Яму маладая ды прыгожая трэба. Не я, дык нехта іншы знойдзецца, усё роўна звядзе яго ад цябе, старой ды нуднай. Я яго сілай не трымаю, але і праганяць не стану. Чым я перад табой правінілася? Ты яго кахаеш, і я кахаю! А ён сам хай выбірае".

Рыгор неўзабаве перабраўся да мяне жыць. Дружна ў нас усё было, хораша. Маці тваю ён глядзеў, як сваё дзіця, ні разочку слова благога на яе не сказаў. Да і на мяне таксама. Ды ён, мне здаецца, і не ведаў такіх слоў. Шкадаваў мяне, усю работу на сябе стараўся ўзяць, каб я адпачыла больш. Шчасліва мы жылі. Толькі сумесных дзяцей Бог не даў, шкадавала я аб гэтым усё жыццё.

Светлы цень, нешта падобнае на лёгкую ўсмешку, прабег па твары старой. Ды ўмомант зноў саступіў месца чорнай пакуце.

— А што Хадоска, пытаешся? Праўду казала, не змагла яна без яго, змарнела ад тугі, хутка памерла. Ды я тады віны сваёй не бачыла — яна і без таго хварэла, ці мала чаго паміраюць людзі. Бачыш, дзіця, што нарабіла твая бабуля? А ты кажаш — харошая... Не ведаю, ці хопіць мне часу ў Бога літасці вымаліць... Не для сябе, не заслужыла я даравання — для цябе, каб не скараў Усявышні за мае грахі цябе, унучка, як тваю маці. Дзе ж сабе такое даруеш?

— Ну што ты, бабка, — прытулілася Кацька да старой. — Чаму ты думаеш, што гэта ўсё з-за цябе? Так лёс склаўся. Ды і кахала ты дзеда — гэта ўсё мяняе. Ці ж ты адна такая была? А цяпер дык і ўвогуле гэта не дзіва — праз аднаго разводзяцца, зноў жэняцца, мужоў зводзяць — і жывуць шчасліва.

— Не, мая галубка, не быць таму шчасцю, што на чужых слязах замешана, я ўжо гэта ведаю...

Ды я табе яшчэ не ўсё расказала. Калі ўжо намерылася слухаць маю споведзь, то слухай да канца. Мне табе расказаць усё яшчэ важней, чым бацюшку, толькі тваё дараванне, калі ты зможаш мне даравацьb, дасць мне супакой.

...Маці твая вырасла, занявесцілася. Прыгажуня была — ну якраз як ты цяпер. Ну не чырваней, не чырваней — праўду кажу. І закахалася. Ды каб у каго талковага, а то — у жаўтаротага хлапчука, які яшчэ і ў войску не быў. А сям'я ў яго — сямёра па лаўках, адзін аднаго не панясе, ён самы старэйшы. І ён ад яе не адыходзіцца. Ну як мне перажыць, што мая адзіная дачка за такога замуж пойдзе? Ледзь дачакалася, пакуль яго ў армію забралі. Ды яшчэ ў марфлот. Ну, думаю, добра, за тры гады ўсяго можа здарыцца. Ды дзе там! Пісьмы ад яго паштальёнка ледзь не штодня носіць, ды і мая дачушка толькі тое і робіць, што на пошту бегае. Ужо і два гады прайшло, а нічога не мяняецца. Ну, думаю, трэба меры прымаць, ратаваць сваё дзіця ад гэтага вар'яцкага кахання. Стала я паштальёнку сустракаць, пісьмы забіраць ды печ імі распальваць.

— Бабуля, як ты магла! — абурана ўскінулася Каця.

— Магла, унучка, магла. На што толькі не пойдзеш дзеля свайго дзіцяці. Я ж думала, як лепей раблю, дачку сваю ратую, пра шчасце яе дбаю. Сумавала яна, праўда, моцна, плакала часта ўпотайкі. Шкада яе было, ды што зробіш? Думала, маладая, перагарыць усё, забудзецца. Потым мне ж яшчэ і дзякаваць будзе.

А тут да нас у калгас новага заатэхніка прыслалі, сталі шукаць, да каго б яго на кватэру паставіць. Я, як яго ўбачыла, адразу сказала: да мяне. Вось, думаю, хто маю дачку ад тугі вылечыць, вось хто ёй вартай парай будзе — граматны, пры пасадзе, пры грашах, ды і сам хлопец відны, вясёлы, і пагаварыць, і пажартаваць умее.

Словам, узяла я сабе кватаранта. Гляджу: і сапраўды ўсё ў іх з тваёй мамай ідзе на лад. Усміхацца яна стала, гаварыць з заатэхнікам. Ну, тады я на колькі дзён у госці да сваёй цёткі паехала, іх адных у хаце пакінула. Прыехала, гляджу: кватарант свеціцца, як блінец намаслены, усміхаецца сыта. А дачка мая вачэй узняць не можа, чырванее пры кожным позірку на яго. Ну і стала я рыхтаваць, прыспешваць вяселле.

Васіль з арміі прыйшоў якраз у той дзень, як у нас заручыны былі. Толькі чамадан дома кінуў і сюды прыімчаў. Яму і сказаць ніхто нічога не паспеў. Заходзіць у хату, а тут поўна гасцей, на куце поруч твая маці з заатэхнікам сядзяць, яна ўжо табой цяжарная была. Ну, ён крутнуўся — і назад. А мама збялела, як палатно, з-за стала выскачыла — і ўслед за ім. Жаніх паглядзеў на тое, плюнуў ды ў клуб на танцы падаўся.

Вяселлю разладзіцца я не дазволіла, бо ты ўжо ў жываце варушылася. Нікуды той заатэхнік не дзеўся, ажаніўся — а што яму яшчэ было рабіць, партыйнаму? Я прыгразіла, што хоць і неадукаваная баба, а дарогу ў райком знайду...

Толькі вось шчасця твая мама ні аднаго дзянёчка не мела, мо толькі як ты нарадзілася. Заатэхнік той з першага дня піў, гуляў, з кім прыйдзецца, не перабіраў. Калі я што пачынала казаць, толькі смяяўся: "Я, — кажа, — зрабіў, як вы хацелі, ажаніўся з вашай варанай рыбай, а цяпер не перашкаджайце мне жыць так, як я хачу". А мама і слова яму не казала, нібы і не заўважала нічога. За яго палюбоўніцы біліся, а яна маўчыць, усміхаецца вінавата, нібы гэта і не мужык яе. Жыла, як у сне, не ела нічога, не хадзіла нікуды, толькі ў сваю бібліятэку: пасядзіць там цішочкам, у адну кропку ўгледзеўшыся, і дамоў ідзе. А дома тое ж самае. Ён п'яны прыйдзе, з яе наздзекуецца, а яна ціхенька паплача і нават мне не пажаліцца.

Каб крыху яе развесяліць, стала я ёй па чарачцы наліўкі наліваць — можа, думаю, апетыт у яе з'явіцца, весялейшай стане,

[Начальнік міліцыі:] Думаеш выпаўняць? [Павал:] Чаму ж не. А ласне сышчаце ў іх штраф? Голыя як бізуны. (...) [Начальнік міліцыі:] Шкада! [Павал:] **Пэўна** (Ц. Гартны). Зімовымі вечарамі ў Пазнякоў збіраліся мужчыны на пасядзенькі, дык часцяком я чуў: "Хто сёння самага большага "таварніка" вывез?" "**Пэўна ж**, Андрыян!" (...) — **Пэўна**, рабіць то ён робіць, але і шчасце мае, — умешваецца нехта скептык (У. Калеснік). [Карэспандэнт:] Валеры Яўгенавіч, ці мела я рацыю, сцвярджаючы, што ваш тэатр наўрад ці мае аналагі ў свеце? [Рэжысёр:] **Пэўна**. Эксперыментальная ўжо сама ідэя адкрыцця падобнага ўтварэння... ("ЛіМ", 7.07.1995).

У рэпліках дыялогаў слова *пэўна* выконвае ролю сцвярджальнай часціцы, абазначае "так, вядома, зразумела". У той ці іншай ступені гэтае значэнне выказваецца спалучэннем *пэўна што*. Прачытаем сказы.

Паўлінка. ... Цяпер нічыёй ласкі [Якім] не патрабуе. Адна з гасцей. **Пэўна, што** не! Такі чалавек нідзе не прападзе (Я. Купала). [Якаў:] ...А не хочаце, дык і зусім не дам... [Сват:] **Так, пэўна, што** твая воля! Бацька заўсёды аб дзецях клапоціцца.... (П. Галавач). [Дзяўчына:] Нам, маладым, **пэўна, што** лепей. Ніякага клопату (М. Зарэцкі). Можа, яшчэ хто з іх прыйдзе дамоў... // **Пэўна што** прыйдзе... За кожным сталом // Месца пакінем для нашых сяброў... (М. Танк). **Пэўна што** прыйдзе (сын), абы толькі змог... (Л. Геніюш). — Заўтра зайду, — ці то паведаміў усім, ці то паўтарыў гэта ўголас самому сабе [дзядзька]. — **Пэўна што**, — сказала старая, — заўтра ўжо, заадно (Я. Брыль).

Як бачым, у гэтых сказах няма граматычнай адназначнасці спалучэння *пэўна што*: у адных яно блізкае да сцвярджальнай часціцы, у другіх — да пабочных слоў, у трэціх — да прыслоўяў.

Кідаецца ў вочы пунктуацыйны разнабой: *пэўна што* (без коскі) — *пэўна, што* (з коскай). А як правільна? Шукаючы адказу, трэба ўлічыць наступнае. Словы *пэўна што* ў пададзеных прыкладах ужываюцца як непадзельнае спалучэнне з адным націскам — на першым слове. І, зразумела, ставіць паміж імі коску неправамерна. Што ж да выдзялення ці аддзялення коскамі гэтага спалучэння ў межах сказа, то тут неабходна браць пад увагу яго граматычную функцыю. Пэўна ж, узнятая намі праблема можа быць вырашана толькі супольнымі намаганнямі працаўнікоў друку і навукоўцаў.

**Алесь КАЎРУС**

жывейшай. Гэта ёй спадабалася: весялосці не дабаўляла, але тады яна нібы адключалася ад усяго. Не заўважыла я, як уцягнулася яна ў гэтую справу. Стала тады ўжо і гарэлку ад яе хаваць, і сварыцца — ды дзе там, яна заўсёды гаварыла: "Ты сама гэтага хацела". Не даравала мне, пасля тых заручын як чужая стала, нічым не дзялілася, усё ў сабе насіла, пакутніца.

— Бедная мама! — закрыла твар рукамі дзяўчынка. — Колькі ёй давялося вытрываць... А я ўсё думала, што гэта гнюсныя плёткі.

Вулляна ўздыхнула, але нічога не сказала. Дый што яна магла сказаць, чым апраўдацца? Што хацела, як лепей?

Не, ёй трэба да канца давесці сваю горкую споведзь...

— Ну, калі ты чула пра гэта, дык аб тым, як памерла твая маці, табе ўжо, пэўна, расказалі. Яе забіў п'яны заатэхнік. Яна, праўда, таксама была нецвярозая. Што там у іх здарылася, ніхто не ведае. Ты тады ў мяне начавала. Я толькі раніцай ад людзей пра бяду даведалася. Прыбегла, а яна ляжыць ля печы, уся сіняя, кроў на ёй запечаная. Ужо не дыхала. Міліцыя затым казала: усю ноч ён яе біў — і рукамі, і нагамі, і ўсім, што траплялася. Як звер... Ці ж заслугоўвае ён пасля таго, каб ты яго бацькам звала? Нелюдзь ён, кат — і больш ніхто!

А я месца сабе тады не знаходзіла. Валасы рвала, галасіла, усё ўспомніла — і Хадоску, і дачку яе няшчасную, і Васіля, які з сяла з'ехаў ды і прапаў недзе, маці ягоная ўсе вочы выплакала... Усе свае грахі на свет вывалакла, ва ўсім пакаялася, ды дачушкі адзінай мне ўсё роўна не вярнуць, хоць бы і сама ў труну легла. Рукі хацела на сябе налажыць, ды дзед да памяці вярнуў: "А Кацьку, — кажа, — хто гадаваць будзе, як цябе не стане? Я доўга не працягну". Ён і праўда хутка памёр, сэрца ў яго хворае было, а тут гэтулькі гора...

Старая зноў закашлялася, задыхалася, як пасля хуткай хады. Затым прамовіла зусім ціха:

— Вось табе і ўся праўда пра маё жыццё. Прашу цябе, дзіцятка: даруй мне. Даруй, калі зможаш... Перад Богам я за свой грэх заплаціла самай дарагой цаной, з ім мы ў разліку. Людзі... Людзі хай сябе судзяць — у кожнага нешта ёсць. Толькі перад табой віны мне не адмаліць, не апраўдаць. Адно прашу: даруй!

Вулляна церабіла тонкую, халодную руку ўнучкі і ўсё старалася зазірнуць ёй у вочы. Каця невідушчым позіркам глядзела міма, на ўбраную зіхатлівую ёлку — яшчэ гадзіну назад яна абяцала ёй радаснае, шчаслівае свята...



# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ЗВОД

## СУЧАСНАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ КАМПАРАТЫВІСТЫКІ

***2 студзеня 2002 года навуковая грамадскасць Польшчы і Расіі ўрачыста адзначыла 70-годдзе з дня нараджэння выдатнага польскага вучонага-славіста Базыля Белаказовіча, прафесара Вармінска-Мазурскага універсітэта ў Ольштыне, ганаровага доктара Санкт-Пецярбургскага і Ніжагародскага універсітэтаў, неперагўзыдзенага даследчыка ўзаемасувязей славянскіх літаратур і ў першую чаргу — польска-рускіх, польска-беларускіх і польска-ўкраінскіх. Найшаноўнейшаму юбіляру былі прысвечаны розныя публікацыі ў перыядычных выданнях, у тым ліку ў дадатках да газет «Калининградский университет» (ад 11 снежня 2001 г.) і «Trybuna» (24 мая 2002 г.). Асабліва каштоўным падарункам юбіляру з'явіўся выпуск кнігі «Acta Polono-Ruthenica. VI» (Хроніка польска-руская) — вялікага зборніка навуковых прац (497 старонак, 35,4 выдавецкіх аркушаў), прысвечаных і самому Прафесару і розным праблемам славянскіх літаратурных узаемасувязей.***

Адкрываецца зборнік шасцю артыкуламі, прысвечанымі характарыстыцы творчых здзяйсненняў юбіляра. Сярод іх — артыкул беларускай даследчыцы Галіны Тварановіч (якая жыве і працуе сёння ў Беластоку) «Ангажаванасць кампаратывістыкай. (Да 70-годдзя Базыля Белаказовіча)». Спецыяльна беларускай тэматыцы прысвечаны тут артыкул вядомага даследчыка польска-беларускіх сувязей Уладзіміра Стохэля «Беларусаведчыя даследаванні Базыля Белаказовіча». Маючы ўсе падставы для гэтага, аўтар піша, што навуковыя здзяйсненні прафесара Базыля Белаказовіча — жывыя, шматтэмныя, шматпраблемныя, налічваючы каля тысячы бібліяграфічных адзінак, імпануюць зацікаўленым чытачам. І значнае месца ў іх займаюць беларусазнаўчыя працы. Яны ўносяць важкі ўклад у беларусазнаўства і кампаратывістыку наогул. Нельга не згадзіцца з падагульняючым вывадам Уладзіміра Стохэля: «...Дзякуючы жывому і багатаму даробку прафесара, польская гісторыка-літаратурная беларусістыка набыла рашучы размах, узбагачаючыся ў метадалагічным і тэматычным плане новымі шырокімі прасторамі даследчыцкіх пошукаў, развіваючыся ад прац папулярна-навуковых, прыстасаваных да канкрэтнай тэматыкі, дакументальных матэрыялаў, літаратурна-крытычных, да артыкулаў і даследаванняў кампаратывістычных і затым паглыбленых сінтэтычных прац культуралагічнага характару» (с. 57).

Уладзімір Стохэль пералічвае вялікую колькасць беларусазнаўчых публікацый у розных перыядычных выданнях, у калектыўных навуковых зборніках. Асаблівай увагі заслугоўвае паведамленне аб тым, што Базыль Белаказовіч з'явіўся ініцыятарам і заснавальнікам калектываў і ўстаноў, якія займаліся і займаюцца плённым даследаваннем польска-ўсходнеславянскіх літаратурных узаемасувязей. У кастрычніку 1969 г. па яго ініцытыве і пад яго кіраўніцтвам у Інстытуце русіцыстыкі Варшаўскага універсітэта, дзе ён працаваў, пачаў сваю плённую дзейнасць цэнтр польска-ўсходнеславянскіх літаратурных узаемаадносін. Адным з асноўных напрамкаў творчай работы Цэнтра з'явіліся шматаспектныя даследаванні ўзаемасувязей беларускай літаратуры з суседнімі славянскімі літаратурамі. Пасля таго, як у 1973 г. Базыль Белаказовіч стаў навуковым супрацоўнікам Польскай акадэміі навук (ПАН), той цэнтрператварыўся ў частку лабараторыі ўсходнеславянскіх літаратур Аддзела славяназнаўства ПАН. Небывала паскорыла справу даследавання польска-ўсходнеславянскіх літаратурных узаемасувязей створаная па яго ініцыятыве выдавецкая серыя «Studia Polono-Slavica Orientalia. Acta Litteraria». (Даследаванні польска-ўсходнеславянскія. Літаратурныя справы).

Першы том адкрываецца праграмным артыкулам самога заснавальніка «Польска-ўсходнеславянскія літаратурныя ўзаемаадносіны як даследчыцкая праблема». Тут пастаўлена задача комплекснага, шматаспектнага, на найнавейшым навуковым узроўні даследавання, у прыватнасці, польска-беларускіх літаратурных узаемаадносін з улікам іх найразнастайнейшых сувязей і ў фальклоры і ў творчасці пісьменнікаў. Адначасова Базыль Белаказовіч з'яўляўся навуковым кіраўніком дысертацыйных прац, прысвечаных гэтым праблемам.

Настала пара зірнуць хаця б у адну з публікацый, якія пералічваюцца Уладзімірам Стохэлем. Выступаючы ў 1989 г. у час абмеркавання Скарынінскай энцыклапедыі ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя М.Горкага АН СССР у Маскве, Базыль Белаказовіч, у прыватнасці, сказаў: «Скарына адыграў велізарную ролю ў гісторыі мовы, гісторыі літаратуры, культуры, мастацтва, філасофіі ўсходніх і заходніх славян, у гісторыі тагачаснай Рэчы Паспалітай, г. зн. Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага. І ўсё гэта на фоне еўрапейскай культуры, яе праблем, яе сувязей з эпохай Рэнесанса, Адраджэння, Гуманізму». І яшчэ адна цытата: «...Скарына так незвычайна шырока ўвайшоў у беларускую мастацкую літаратуру — тут і Багдановіч, Бядуля, Грамыка, Караткевіч, Клімковіч, Клышка, Лойка, Петрашкевіч, Садковіч, Ялугін. Велізарная тэма — гэта пранікненне вобраза Скарыны ў шырока зразуметую культуру і мастацтва, у жывапіс, у тэатр і кіно».

Нельга абмінуць яшчэ адзін напрамак творчай дзейнасці Базыля Белаказовіча, які не толькі даследуе літаратурны працэс, але і папулярызуе беларускую літаратуру ў асяроддзі польскіх чытачоў. У анталогіі «Jak unieьść wierszem Twoją chwałę» (Як узняць у вершы тваю славу, Лодзь, 1977) ён змясціў у польскіх перакладах творы такіх беларускіх паэтаў, як Рыгор Барадулін, Марына Барсток, Пятрусь Броўка, Аляксей Зарыцкі, Кастусь Кірэенка, Якуб Колас, Алег Лойка, Еўдакія Лось, Сяргей Панізнік, Пімен Панчанка, Язэп Пушча, Янка Сіпакоў, Максім Танк. У вельмі салідным кнізе «Polonistyka Radziecka» (Савецкая паланістыка, Варшава, 1985) пазнаёміў польскіх чытачоў з навуковай дзейнасцю беларускіх літаратуразнаўцаў Адама Мальдзіса, Уладзіміра Казберука, Святланы Мусіенкі, Валянціны Гапавай. Ды яшчэ ў польскай літаратурнай энцыклапедыі ў 1984 г. падаў звесткі пра такіх беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў, як Янка Брыль, Максім Танк, Сцяпан Александровіч, Валянціна Гапава, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Уладзімір Казбярук. У новым выданні энцыклапедыі (2000 г.) тыя звесткі былі значна ўдакладнены і пашыраны.

У кнізе «Acta Polono-Ruthenica» пра навуковыя і творчыя здзяйсненні прафесара акрамя польскіх аўтараў пісалі даследчыкі з Расіі Георгій Красноў («Пути и перепутья ученого (к 70-летию Базылия Бялокозовича)», з Літвы Павелас Івінскіс («Польско-русская компаративистика в трудах профессора Базылия Белокозовича: Некоторые аспекты изучения»). Раскрываюцца і плённыя сувязі вучонага з украінскім літаратуразнаўствам: Антон Серадніцкі. «Украініка ў навуковых здзяйсненнях прафесара Базыля Белаказовіча».

Пасля ўводных артыкулаў ідзе 7 раздзелаў, кожны з якіх аб'ядноўвае працы, блізкія па праблематыцы і тэматыцы. У першым з іх — «Тэорыя і гісторыя літаратуры» — беларускай тэматыцы прысвечаны артыкул вядомага паэта і навуковага работніка з Беластока Яна Чыквіна «Проза Масея Сяднёва».

Трэці раздзел «Міжславянскія літаратурныя філіяцыі» адкрываецца артыкулам Уладзіміра Казберука «Перакпічкі і рэмінісцэнцыі». Тут жа змешчаны працы яшчэ двух беларускіх аўтараў — Язэпа Янушкевіча «Дынабург-Парыж-Лондан-Кукавячын, або Яшчэ адзін жыццяпіс змагарнага XIX стагоддзя» (гаворка вядзецца тут пра Аляксандра Рыпінскага) і Усевалада Рагойшы «Паэзія Алеся Гаруна на тле суседніх літаратур пачатку XX стагоддзя».

Наступны, чацвёрты раздзел пачынаецца артыкулам Уладзіміра Мархеля «Міцкевіч і Пушкін — узаемныя пераклады» (адзіны выпадак у зборніку, калі беларускі аўтар напісаў сваю працу на польскай мове).

Цэлы шосты раздзел «Польска-беларускае культурнае пагранічча і літаратурныя сувязі» прысвечаны польска-беларускім літаратурным узаемасувязям. Асноўнае месца займаюць тут працы беларускіх аўтараў. Вячаслаў Рагойша выступае з артыкулам «Радавое гняздо» Здзяхоўскіх». Пра Мар'яна Здзяхоўскага піша таксама і польскі даследчык з Гданьска Збігнеў Апацкі. Ксенафонт Лецка з Гродна прысвяціў сваю працу праблеме беларускага рамантызму XIX ст. у кантэксце беларуска-польскага ўзаемадзеяння. Мікалай Хмяльніцкі з Мінска звярнуўся да беларускай тэматыкі ў творчасці Адама Плуга, аўтара беларускага апавядання «Кручаная баба». У гэтым жа раздзеле беларускай літаратуры і мове прысвечаны артыкул вядомага маскоўскага вучонага Віктара Хорава (які таксама нядаўна адзначаў сваё 70-годдзе) «Польско-белорусское пограничье в творчестве Тадеуша Конвицкого».

Апошні, VII раздзел, прысвечаны праблемам моўных кантактаў. І тут знайшлося месца для беларускай тэматыкі — прытым у працах аўстрыйскага і польскага аўтараў. Гэрман Бідэр з Зальцбурга змясціў артыкул «Спроби нормування західнополіської літературної мікромови у Білорусі». Польскі даследчык Ежы Трачук піша пра мову заходнебеларускай прозы 1918—1939 гг.

Усяго ў кнізе змешчаны працы 48 аўтараў, у тым ліку такіх вядомых маскоўскіх даследчыкаў, як Алена Цыбенка, Віктар Хораў, Тамара Агапкіна. Велізарную арганізацыйную работу па падрыхтоўцы зборніка ажыццявіў прафесар Вармінска-Мазурскага універсітэта Валенты Пілат, адзін з вучняў прафесара Базыля Белаказовіча.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

**У № 28 газеты "Літаратура і мастацтва" у рубрыцы "Віншуем" памылкова згадана імя памерлага пісьменніка Івана Мялы. Рэдакцыя просіць прабачэння ў родных і блізкіх пісьменніка.**

ВІНШУЕМ!

# З ПАЧУЦЦЁМ АКТУАЛЬНАСЦІ

Не толькі ў навучальных установах культуры і мастацтва мае попыт акадэмічны трохтомнік (апошні том выйшаў у дзвюх кнігах) "Музычны тэатр Беларусі". Гэтае выданне, якое ўбачыла свет пры канцы 90-х,




зрабілася настольным даведнікам для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй станаўлення і развіцця айчыннага музычнасцэнічнага мастацтва ад XVI ст. да 90-х гадоў стагоддзя мінулага. Зрэшты, у свой час "ЛіМ" адзначаў з'яўленне такога унікальнага даследавання, якое закранула не толькі жанры оперы ды балета, але і музычнай камедыі, аперэты, музыкі ў пастаноўках тэатра драматычнага. Сёння ж мы зноў згадваем працу нашых мастацтвазнаўцаў, бо ў кіраўніцы іх невялікага аўтарскага калектыву, пад навуковай рэдакцыяй якой і выйшаў трохтомнік "Музычны тэатр Беларусі", у Галіны Куляшовай — юбілей.

Пра доктара мастацтвазнаўства, прафесара Г. Куляшову, якой 20 ліпеня споўнілася 75, падрабязна піша "ЭЛіМБел". Вядома ж, найбольш плённы перыяд яе педагагічнай і навуковай дзейнасці звязаны з Нацыянальнай акадэміяй навук і з Беларускай акадэміяй музыкі. Але да сказанага ў энцыклапедыі штогод дадаюцца новыя радкі. Засяродзіўшы ў свой час асаблівую ўвагу на праблемах опернай творчасці, Галіна Куляшова, следам за новым пакаленнем беларускіх гісторыкаў музыкі, цяпер зацікавілася і нашай даўнінай. Таму не першы год удзельнічае ў навуковапрактычных канферэнцыях, якія ладкуюцца падчас фестывалю камернай музыкі ў Нясвіжы. Вось і сёлета Галіна Рыгораўна была там, выступіла з дакладам на тэму: "Гістарычнае значэнне мастацкай спадчыны Радзівілаў у развіцці еўрапейскага музычна-тэатральнага мастацтва". Выбар, адпаведны кантэксту канферэнцыі і сугучны прыярытэтам фестывалю "Музы Нясвіжа"...

С. Б.

АКЦЭНТ

***"Не магу сказаць, што маё меркаванне будзе ўлічвацца. Але... мне б хацелася бачыць на гэтай пасадзе сур'ёзнага мастака, музыканта-мысляра", — гаварыла ў адным з інтэрв'ю мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі Маргарыта Ізворска. Было гэта неўзабаве пасля таго, як яна скасавала кантракт з маэстра Аляксандрам Анісімавым і пасада галоўнага дырыжора тэатра засталася вакантнай, а ўсе чакалі рашэння конкурснай камісіі наконт прэтэндэнтаў на гэтую пасаду.***



# СВОЙ СЯРОД СВАІХ

Чакалі нядоўга: на свае летнія вакацыі творчы калектыў пайшоў, ужо маючы новага галоўнага дырыжора. Ім — дай Бог, каб на шчасце! — абраны ўжо не чарговы "госць" з-за мяжы, а беларускі музыкант: Вячаслаў Чарнуха.

Ён мае немалы стаж працы ў нашым Вялікім тэатры оперы і балета, мае і добрае імя, вядомае чытачам "ЛіМа" па публікацыях розных гадоў. Таму застаецца толькі нагадаць, што карані Вячаслава Чарнухі — на Берасцейшчыне; што яго першая музычная прафесія — трамбон (скончыў у Беларускай акадэміі музыкі клас незабыўнага прафесара Р. Лагонды); што па спецыяльнасці "оперна-сімфанічнае дырыжыраванне" займаўся ў сценах роднай акадэміі" ў В. Лявонава і ўдасканальваў свой досвед таксама тут, пад кіраўніцтвам сусветна вядомага А. Анісімава. Пасля супрацоўніцтва з рознымі калектывамі В. Чарнуха трапіў у тэатр оперы і балета, дзе неўзабаве быў прызначаны дырэктарам аркестра і потым стаў надзейным і незаменным памочнікам, не толькі "правай", а, можна сказаць, "абедзвюма рукамі" маэстра А. Анісімава, пастаянна занятага творчымі справамі па-за межамі Беларусі. Пры канцы сёлетняга сезона давялося яму і часова выконваць абавязкі галоўнага дырыжора.

Словам, і для тэатра, і для публікі Вячаслаў Чарнуха — чалавек не проста знаёмы. Свой. Выпрабаваны і руцінай будняў, і гастрольным экстрымам. Наконт іншага... Ва ўжо згаданым інтэрв'ю М. Ізворска гаварыла так: "У мяне не было магчымасці кантактаваць з ім (В. Чарнухам. — **С. Б.**) як з дырыжорам-пастаноўшчыкам, а толькі ў такой працы можна сказаць, мысляр дырыжор ці не мысляр. А з Аляксандрам Міхайлавічам (Анісімавым. — **С. Б.**) я ставіла спектаклі. Прызнаю ўсе яго выдатныя прафесійныя, тэхнічныя якасці, але... Ён не мой дырыжор". (Цытуецца з "Народнай волі" за 5.06.2003 г.).

"Хаваншчыну", якой, дарэчы, адкрые свой новы сезон тэатр (16 верасня), Маргарыта Ізворска ставіла разам з маэстра Генадзем Праваторавым, "сваім" дырыжорам. Ці раскрыецца "свой сярод сваіх" Вячаслаў Чарнуха як аднадумца мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі — пакажа іх першая ж сумесная пастаноўка.

С. БЕРАСЦЕНЬ

ФОТАРАКУРС

# НЯХАЙ ЖЫВЕ ТВОРЧАСЦЬ!

Пасля якой падзеі застаўся ў рэдакцыйным архіве гэты здымак — ніхто з сённяшніх супрацоўнікаў "ЛіМа" сказаць дакладна не можа. Падзея, безумоўна, датычыла сферы творчай і была досыць важная: нездарма ж у кадры — дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір ПРАКАПЦОЎ, першы намеснік міністра культуры краіны Уладзімір РЫЛАТКА ды старшыня Беларускага саюза кампазітараў Ігар ЛУЧАНОК.

Дарэчы, сёлета гэтай музычнай суполцы спаўняецца 70 гадоў. Юбілей плануецца адзначыць восенню. А народнаму артысту СССР Ігару Лучанку, якога калегі-кампазітары ў сакавіку 2002 года зноў абралі старшынёй свайго саюза, неўзабаве будзе 65. Дзень нараджэння ў яго – 6 жніўня. Вось тады можна будзе і павіншаваць імянінніка. Але ж каб выказаць яму сваю ўдзячнасць за цудоўныя песні, прызнацца ў захапленні творчым талентам, пажадаць здароўя і плёну ў працы, зусім не варта азірацца на каляндар і чакаць асаблівай нагоды. Добрае слова падтрымкі патрэбнае творцы штодня!

С.ВЕТКА



ПАМЯЦЬ

# І ПАГЛЯДЗЕЛІ «РАДАЎНІЦУ»

Сваё 65 Юрый Марухін мог бы прыгожа і шчодра адзначыць у коле блізкіх ды сяброў. Хвароба не дала яму дажыць да гэтай даты. Але ў кінематаграфічным асяроддзі заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Юрый Марухін — асоба незабыўная. І данінай яго памяці сталася вечарына, зладкаваная ў сталічным кінатэатры "Цэнтральны" на мінулым тыдні.

З 1961 года ён, выпускнік ВГІКа, працаваў на студыі "Беларусьфільм" — і ў мастацкім кіно, і ў дакументалістыцы. Каля 30 стужак зняў як аператар-пастаноўшчык ("Чорнае сонца", "Магіла льва", "Хроніка ночы", "Пункт адліку", "Паводка", "Зацішша", "Сад" і інш.). Вылучыўся майстэрствам каларыстычнага і светлавага вырашэння, уменнем паказаць на экране псіхалагічны партрэт персанажа. Магчыма, менавіта імкненне да псіхалагічнай характарыстыкі кінагероя сродкамі свайго "выяўленчага мастацтва", заглыбленасць ва ўнутраны змест кожнага кадра і абумовіла прыход Юрыя Марухіна ў рэжысуру...

Як рэжысёр-пастаноўшчык ён паспеў рэалізаваць сябе толькі ў чатырох кінакарцінах. Дэбютам жа была "Радаўніца". Яе паказ (разам з відэастужкай "Наш Юра", знятай Ігарам Волчакам) стаў сімвалічнай кульмінацыяй мемарыяльнай вечарыны.

С. Б.





Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-84-61

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1521
Нумар падпісаны ў друк 16.07.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3036

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12